# К КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА № 25 (287) 28 чэрвеня — 4 ліпеня 1997 г. КОШТ 2000 РУБЛЁЎ

ДЫСКУТУЕ • ПРЭЗЕНТУЕ • РАЗВАЖАЕ





ДЗЕНЬ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ

ДЗЕНЬ ВЫЗВАЛЕННЯ БЕЛАРУСІ

МІНСКУ - 930

Калаж Наталлі ОВАД

## ВЯРТАННЯ НЕ БУДЗЕ?



Міжнародная канферэнцыя па рэстытуцыі культурных каштоўнасцяў прайшла ў Мінску, у канферэнц-зале гасцініцы "Юбілейная", 19 і 20 чэрвеня. Яна была падрыхтавана Нацыянальным навукова-асветным цэнтрам імя Францішка Скарыны пад эгідай ЮНЕСКО і ўяўляла сабой чарговую спробу вырашэння праблемы страты Беларуссю сваіх культурных і гістарычных здабыткаў. На жаль, як мне здалося, спробу нясмелую.

Час правядзення канферэнцыі выпадкова супадаў з часам абвостранага вырашэння заяўленай у тэме канферэнцыі праблемы ўжо на дзяржаўным узроўні ў Расіі. Аднак у Беларусі грознае слова "рэстытуцыя" гучыць, як мне здалося, больш для прыгажосці. Наш талерантны народ, у тым ліку і дзяржаўныя дзеячы, і навукоўцы, больш схільныя да бесканфліктнага вырашэння пытанняў. Менавіта гэтая думка прагучала ў прывітальным слове старшыні аргкамітэта канферэнцыі міністра культуры Беларусі **Аляксандра Сасноўскага**. Менавіта ў рэчышчы гэтай ідэі фармавалася праграма канферэнцыі, дзе большасць паседжанняў прысвячалася не звароту, а сумеснаму выкарыстанню бібліятэчных, музейных і архіўных збораў. Менавіта на гэтым акцэнтавалі сваю ўвагу амаль усе выступоўцы.

Факты, што навукоўцы прыводзілі ў сваіх дакладах, прымусілі б сціснуцца ад болю сэрца кожнага беларуса.

**Дзмітрый Бубноўскі**, начальнік Дзяржаўнай інспекцыі па ахове помнікаў культуры Міністэрства культуры Беларусі, зазначыў, што ўсе перамовы Беларусі з іншымі краінамі аб рэстытуцыі культурных каштоўнасцяў заканчваюцца звычайна вельмі хутка і безвынікова, як толькі высвятляецца, што ў нашых фондах няма амаль нічога "чужога". Так завяршыліся перамовы з Германіяй — процілеглы бок проста страціў цікавасць. Але ж амаль такі самы лёс і перамоў з Расіяй. Нягледзячы нават на тое, што час ад часу Беларусь перадае ўсходняй суседцы культурныя здабыткі, што адбіраюць беларускія мытнікі ў кантрабандыстаў, як было нядаўна з калекцыяй абразоў з Яраслаўскай вобласці.

(Заканчэнне на стар. 3)

*Летась "Культура" прысвяціла праблемам "Славянскага базару" адзін са сваіх нумароў пад агульным загалоўкам "Мёд", "Трускалкі" і "Рэдзька" славутага кірмаша". Але ці вырашаны тыя леташнія праблемы, якія сканцэнтраваліся і завіслі над "базарам"? Пра гэта наша размова з віцэ-прэзідэнтам карпарацыі "Славянскі базар", дырэктарам Генеральнай дырэкцыі фестывалю Радзівонам БАСАМ.*

# "СЛАВЯНСКІ БАЗАР": ЯК ТРАПІЦЬ У "ЯБЛЫЧАК"?



**— Радзівон Міхайлавіч, да ўрачыстых фанфараў "Славянскага базару" засталося зусім няшмат...**

—... І падпісаны ўсе дакументы аб фінансаванні. Але беларуская доля ў фестывалі паступіла на разліковы рахунак дырэкцыі толькі 25 чэрвеня. І тое, дзякуючы супераператыўнасці Міністэрства культуры Беларусі. Мы ведаем, што фестываль абавязкова адкрыецца, што па распараджэнні Прэзідэнта выдаткоўваецца на яго пэўная сума грошай. Але, каб жа гэтыя грошы з'явіліся на рахунку фестывалю хаця б за чатыры месяцы да яго пачатку... А цяпер, у такой сітуацыі, мы павінны праплочваць утрая больш за экстраннасць у падрыхтоўцы сцэнаграфіі, напрыклад.

**— Тое ж самае, што і летась было?**

— Літаральна тое ж самае! А маглі ж з гэтымі грашыма працаваць і працаваць. Друкаваную прадукцыю ціха і спакойна зрабіць, не несці вялікіх страт, а так мы губляем буйную суму валюты. Словам, самі ствараем праблемы, якія не спрыяюць справе. Я маю на ўвазе і Шагалаўскі пленэр з усімі пазіцыямі, і "Славянскі базар". Таму хацелася б, каб на наступным фестывалі няхай сабе трэцяя частка грошай, але з'явілася хаця б у лютым. Каб мы маглі закупіць паперу для фестывальнай газеты, прадумаць і ўсталяваць неабходныя камп'ютэрныя праграмы, акрэдытацыйныя справы вырашыць, загадзя заказаць сцэнічнае афармленне. Не рабіць усё па прынцыпе "з плеч ды ў печ". Фірмы, з якімі працуем, не ўсе аднязначна ставяцца да сітуацыі абслугоўвання без грошай. Ну, добра, 50 працэнтаў фірм нам давяраюць і пачынаюць якасна працаваць за тыя капейчыны, якія ў іх ужо ёсць; некаторыя сядзяць і чакаюць праплаты; а пэўныя арганізацыі нас ужо далёка паслалі. У мяне ёсць ліст ад фірмы "Эва", у якім яны задаюць рэзоннае пытанне: ці магчыма закупіць за два тыдні да адкрыцця неабходныя матэрыялы і ўвасобіць праект сцэнаграфіі ў жыццё?

**— Але ж, скажам так, ёсць і рэзоннае меркаванне, што загадзя атрыманыя грошы можна выгадна пракручваць, а тым больш — за некалькі месяцаў...**

— Нават калі б мы палову грошай аддалі ў вытворчасць, а палову паклалі на дэпазітны рахунак у банк, што здарылася б? Так, зарабілі б пэўную суму. Але не сабе ў кішэню, а каб скараціць каштарысныя выдаткі на фестываль. А пакуль што мы шмат страчваем, вельмі шмат...

**— Вы, Радзівон Міхайлавіч, прабачце, амаль на дзве гадзіны спазніліся на нашу з Вамі сустрэчу. Калі не сакрэт, што Вас затрымала?**

— З раніцы разам з намеснікам старшыні Віцебскага аблвыканкама, кіраўніком рабочай групы па падрыхтоўцы фестывалю "Славянскі базар" Уладзімірам Цацохам вызначалі аператыўныя моманты. Субота — адзіны дзень, калі ні ў яго, ні ў мяне няма наведнікаў. Абмяркоўвалі нашы ўнутраныя пытанні, звязаныя з арганізацыяй бяспекі гасцей фестывалю, медыцынскім абслугоўваннем, гатэлямі. А потым са старшынёй гарвыканкама Уладзімірам Пелагейкам і са старшынёй аблвыканкама Уладзімірам Андрэйчанкам, які з'яўляецца яшчэ і старшынёй аргкамітэта фестывалю, былі на Амфітэатры. Там цяпер ідзе рамонт. Словам, горад рыхтуецца да прыёму гасцей як сапраўдны гаспадар. Магу сёння сказаць: усё, што было вызначана, увасобіцца ў тэрмін.

**— Летась у інтэрв'ю "Культуры" Вы казалі пра складаную сітуацыю з гасцінічным фондам. Нумароў у гатэлях для гасцей фестывалю, прэсы катастрафічна не хапала. Ды і, шчыра скажам, тыя, што былі, далёка не шыкоўныя...**

— Гэта праблема ў нас застаецца на тым жа ўзроўні. Мала таго, кожны кіраўнік гасцінічнай гаспадаркі ў Віцебску, а яны рознага падпарадкавання, дыктуе свае ўмовы. Самае дзіўнае, што два-тры гады таму мы мелі нумарнога фонду больш, чым маем сёння. Але гэта не значыць, што гатэлі зачыніліся ці разбурыліся. Частка гасцінічных нумароў здаецца пад офісы, частка — проста хаваецца нашымі дырэктарамі гатэляў. Бо да "СБ" ёсць цікавасць не толькі з боку прэсы, кіраўнікоў дзяржавы, але і з боку фірм, якія хочуць зарабіць на "СБ", за нашай спінай на "суперцікавых" умовах заключаючы часам дамовы з гасцініцамі, каб прывозіць сваіх кліентаў. Мы ця-

# "ТУТ, НА ПАКРОЎСКАЙ ВУЛІЦЫ Я НАРАДЗІЎСЯ Ў ДРУГІ РАЗ..."

Безумоўна, адкрыццё Дома-музея Марка Шагала, на нашу думку, з'явіцца найбольш значнай падзеяй у ланцугу маючых адбыцца юбілейных шагалаўскіх акцый 1997 года.

Узгадаем: яшчэ ў кастрычніку 1988 года Васіль Быкаў, Рыгор Барадулін, Андрэй Вазнясенскі і Давыд Сімановіч у адкрытым лісце ў рэдакцыю газеты "Советская культура" востра ўзнялі пытанне аб увекавечанні памяці Марка Шагала ў ягоным родным горадзе, і ў прыватнасці, у Доме на 2-й Пакроўскай, дзе жыў мастак.

Потым, у 1989 годзе быў ліст старшыні Савецкага фонду культуры Дзмітрыя Ліхачова Першаму сакратару ЦК КПБ Яфрэму Сакалову з настойлівай просьбай прыняць дзейныя меры па выратаванні і добраўпарадкаванні Дома Шагала ў Віцебску і стварэнні ў ім музея мастака.

У 1991 годзе былі наладжаныя Першыя Шагалаўскія Дні ў Віцебску. Тады ж Віцебскі гарвыканкам прыняў рашэнне аб адкрыцці на вуліцы Пакроўскай Дома-музея Марка Шагала, а таксама помніка і мемарыяльнай дошкі. У наступным, 92-м, быў адкрыты помнік паводле праекта Аляксандра Гвоздзікава, усталяваная і мемарыяльная дошка слыннаму земляку: "Тут жыў мастак Марк Шагал", былі праведзеныя Шагалаўскія чытанні, што зрабіліся пазней рэгулярнымі (сёлета яны наладжваюцца ўжо ў сёмы раз). Быў усталяваны помнік і на магіле першага настаўніка Шагала — Юдэля Пэна.

А Дома-музея так і не было. Таго самага Дома, пра які сам мастак узгадваў: "Маці распавядала пра тое, што ў тую гадзіну, калі я з'явіўся на свет, у маленькай хатцы ля самага гасцінца, за турмой на ўскрайку Віцебска, успыхнуў велізарны пажар. Ложак з маці і дзіцем перанеслі ў надзейнае месца на другім канцы Віцебска... Аднак дамок ля дарогі на Пескаваціках ацалеў... Бацька набыў іншы дом... Тут, на Пакроўскай вуліцы я нарадзіўся ў другі раз..."

І вось 6 ліпеня — нарэшце, здзейсніцца!

Якім ён будзе, гэты Дом-музей, дзе "мая майстэрня месцілася ў тым самым двары... Пакой быў заліты густа-сінім святлом з адзінага акна. Яно ішло здалёк: з узгорка, на якім стала царква. Гэты ўзгорак з царквою я неаднойчы і заўсёды з задавальненнем адлюстроўваў на сваіх карцінах"?

Праз тыдзень мы даведаемся пра гэта, калі ўвойдзем у доўгачаканы Дом чыстымі і натхнёнымі...

* * *

Некалькі словаў пра гісторыю Дома Шагала на вуліцы Пакроўскай, 11, што распавёў вядомы віцебскі краязнаўца Аркадзь Падліпскі.

У студзені 1897 года "мяшчане Х.М.Шагал (Хацкеле, ён жа Захар. — **Б.К.**) і ягоная жонка Ф.І.Шагал" пабудавалі драўляны дом "у трэцяй частцы горада Віцебска". Амаль побач — яшчэ два, таксама драўляныя. А ўвосень 1900 года Шагалы пабудавалі і трэці, аднапавярховы, але ўжо мураваны, са скляпеннямі. Сям'я мастака тут пражыла да пачатку 20-х гадоў. У 1915 годзе памерла маці Марка Захаравіча, у 1921-м трагічна загінуў бацька. У 20-м у Маскву паехаў і сам мастак, а потым і ўсе ягоныя сёстры.

Падчас Вялікай Айчыннай драўляныя дамы згарэлі, а ад мураванага засталіся толькі сцены. Пасля Перамогі тут жыў муляр З.Мейцін: ён адрамантаваў гэты дом, уставіў аконныя блокі, насцяліў падлогу, зрабіў новы дах, а дзверы ў дом і ў крамку заклаў цэглай, зрабіўшы замест дзвярэй яшчэ адно акно і па краях — прыбудовы.

Напрыканцы 80-х былы дом Шагала робіцца месцам сапраўднага паломніцтва людзей з розных краін свету. Так Дом Шагала нараджаўся наноў...

Наш карэспандэнт узяў інтэрв'ю ў аўтара праекта Дома-музея, вядомага віцебскага мастака, спецыяліста па інтэр'ерах, **Юрыя ЧАРНЯКА**.

**— Юрый, калі ты непасрэдна пачаў працу над праектам гэтага Дома-музея?**

— Ідэю экспазіцыі Дома-музея я атрымаў напрыканцы 1994 года. Рыхтавалі гэтую ідэю Любоў Базан і гарадскі аддзел культуры. Уласна кажучы, "натурных", дакументальных матэрыялаў практычна не было, і гэта стала нашай асноўнай праблемай.

**— Але ўсё ж існавала нейкая канцэпцыя музея?**

— У студзені 95-га праходзіла грамадскае абмеркаванне майго праекта. Тут жа ўзнікла першае пытанне: што ж, уласна, з'явілася пунктам адліку для стварэння канцэпцыі музея? Аказалася, што, па сутнасці, навуковай канцэпцыі і не было...

**— А што было закладзена ў тваёй уласнай мастацкай канцэпцыі?**

— Сваё мастакоўскае бачанне я падрабязна адлюстраваў у праекце. А ўжо пазней навуковая канцэпцыя шліфавалася, так бы мовіць, зыходзячы з гэтай умовы... Галоўная мая думка: не выклікаць у гледача памылковага меркавання, што гэта менавіта тое і менавіта так. Для мяне галоўнае: паказаць, як гэта магло быць.

**— Калі ты пачаў праектаванне, у якім стане знаходзіўся гэты Дом?**

— Ён быў ужо адрэстаўраваны. У нечым дапамаглі спонсары з Германіі (праўда, гэтых грошай — 20 тысяч DM — хапіла толькі на аздобу дома), усе астатнія грошы — з гарадскога бюджэту. Тады не было яшчэ ўнутраных перагародак, хаця і існаваў праект рэстаўрацыі і рэканструкцыі. Адштурхоўваючыся ад гэтай сітуацыі, я і пачаў сваю працу, маючы ў якасці адзінага дапаможнага сродку — дакументальны фотаздымак дома таго часу...

**— Нядаўна я пачуў, што ў доме быў знойдзены нейкі склеп, што раней заставаўся не вядомым?**

— Так, сапраўды. Дом жа быў спалены падчас вайны, засталіся толькі сцены. Мабыць, падчас пажару гэты склеп, што знаходзіўся пад кухняй, апынуўся пад руінамі. І ўсё, што было ў кухні: посуд, розныя хатнія прылады і г.д., звалілася ў гэты склеп. І вось нядаўна, калі будаўніцтва блізілася да заканчэння, знайшлі столь ад склепа. Пачалі капаць далей, знайшлі аскабалкі ад посуду і розных вырабаў 10 — 20-х гадоў, некаторыя з кляймом "фабрыкі Кузняцова"...

**— А што там яшчэ было знойдзена?**

— Цэлага — нічога. А так — аскепкі бутэлек, кавалкі гліняных гаршкоў, пакрытыя сурыкам і вохрай; фрагменты тынкоўкі дзвярэй — з рэшткамі нейкага роспісу з трыма кветкамі — сіняй, вохрыстай і чырвонай. Знайшлі дарэвалюцыйную капейчыну...



**— Так, гэта ўсё вельмі цікава, але ж да адкрыцця Дома-музея засталося зусім мала часу. Што будзе з гэтым склепам?**

— Хтосьці прапаноўваў увогуле засыпаць яго. Але мы дамагліся ягонай кансервацыі. Нас падтрымаў загадчык аддзела культуры Кібісаў. Мы зрабілі цагляную кладку, перакрылі склеп, і гэта, мяркую, будзе гарантыяй таго, што ўсярэдзіне можна будзе потым "падкопваць", рабіць скляпенне пад кухняй і працягваць далейшыя раскопкі. Можа, потым яшчэ што-небудзь знойдзецца...

**— І ўсё ж, ці захавалася што-небудзь з таго, шагалаўскага часу?**

— Я ўжо казаў пра адзіны здымак. Акрамя гэтага, штосьці захавалася ў пляменніцы мастака Іды Аронаўны, якая жыве ў Санкт-Пецярбургу. Яна абяцала што-небудзь з рэчаў, што захаваліся ў яе, падарыць музею, але пакуль што... маўчыць.

**— Сённяшняя планіроўка экспазіцыі музея... Што яна з сябе ўяўляе?**

— Шэсць пакояў. Мы іх аднавілі паводле малюнкаў Шагала — "дакументаў", як ён сам іх называў. Першы пакой — уваход з вуліцы. Гэта бакалейная крамка. Менавіта яна была асноўнай карміцелькай вялікай шагалаўскай сям'і. Другі пакой — жылы. Мы яго рэканструявалі як дзіцячы. З гэтага памяшкання ўваходзім у залу. Далей трапляем на кухню і да выхаду ў двор... Хачу яшчэ раз падкрэсліць: галоўная наша праблема — недахоп канкрэтных прадметных матэрыялаў. Так, існуе, так бы мовіць, "візуальны" рад: альбомы з карцінамі Шагала, ягоныя малюнкі, аўтабіяграфічная кніга "Маё жыццё", фатаграфіі мастака розных гадоў, але для музея гэтага, як ты разумееш, недастаткова. Таму першапачаткова канцэптуальнае вырашэнне экспазіцыі вылілася ў наступную ідэю: што б мы маглі ўбачыць з дня сённяшняга, уваходзячы ў гэты дом?

**— Зразумела, што аднавіць кожны пакой у тым выглядзе, які ён меў пры жыцці Шагала, немагчыма...**

— Так, немагчыма. Пакоі маленькія і што канкрэтна ўяўляў з сябе кожны з іх — нам невядома.



пер, груба кажучы, вядзем з гэтым барацьбу.

**— І ўсё ж, ці не час "Славянскаму базару" мець свой рэспектабельны гатэль пад аднайменнай назвай?**

— Час наспеў. Увогуле, "СБ", маючы цяперашні ўзровень, можа быць са-ма-акуп-ным! Бо цікавасць да яго — каласальная! Што там казаць, у Польшчы, на Украіне, у Расіі, Германіі, Балгарыі — няма фестываляў падобнага ўзроўню. Возьмем "Браціслаўскую ліру" альбо "Сопат", фестывалі ў Германіі або "Чырвоную руту" на Украіне — так, яны вельмі цікавыя, моцныя па мастацкім афармленні, але ў "Славянскага базару" ёсць свая "разынка", уласны стыль, аўра свята. Інфраструктура фестывальных пляцовак у Віцебску асаблівая, усё знаходзіцца побач — і гасцініцы, і прэсцэнтр, і Амфітэатр, і рэстараны. Але, на жаль, фестываль толькі ўкладвае, а ўсе астатнія на ім зарабляюць. На нармальным фестывалі — сітуацыя іншая.

**— Напрыклад, Радзівон Міхайлавіч...**

— Мрангоф, што ў раёне Сопата — там праводзяць фестываль кантры-музыкі, праўда, усяго 50-60 чалавек, гэта не тое, што ў нас — 6 тысяч пераварочваецца! Там фестывалем арандуецца база адпачынку, і гатэлі, і рэстараны — усё на гэты час належыць аднаму гаспадару, які прыносіць вялізны прыбытак і сабе, і гораду.

**— А ці мае сам "Славянскі базар" прыбытак ад тых жа гандлёвых кропак?**

— І сёння, як і раней, на тэрыторыі фестывалю будуць працаваць і кропкі грамадскага харчавання, і сувенірныя выязныя крамы, якія за гэты тыдзень атрымаюць звышпрыбытак. Але фестываль з гэтага і раней нічога не меў, і цяпер мець не будзе.

**— Але ж сам горад, напэўна, ён жа страчвае, аддаючы сервіс на водкуп камерцыйным структурам, якія будуць мець з гэтага вельмі высокія дывідэнды. Дык, можа, прымяняць да іх на тыя дні больш высокае падаткаабкладанне?**

— Так і робіцца. Летась нам удалося з гарвыканкамам вырашыць адно пытанне: тыя арганізацыі і ўстановы, якія рэалізуюць свой тавар у азначанай зоне фестывалю, павінны набываць спецыяльную ліцэнзію. Атрымалася, і мы паклалі на свой разліковы рахунак каля ста мільёнаў рублёў. Гэта невялікія грошы, але мы зацыравалі некаторыя дзіркі. Мінуў год, цяпер ёсць афіцыйны ўрадавы дакумент, і горад увёў свой падатак, які папаўняе мясцовы бюджэт. Падатак на выязны гандаль: як выехала кропка — заплаці. Тая ж гасцініца адлічвае ў гарадскую казну грошы за тое, што яна запаўняецца насельнікамі. Тое ж самае — транспарт і г.д. Раней казалі: вось, маўляў, колькі сродкаў горад укладае, каб адрамантавацца да фестывалю. А ніхто, бадай, не рабіў даследавання: а колькі горад за гэты фестывальны тыдзень мае? Я не кажу цяпер пра духоўную страву, пра тую ж рэкламу! На працягу 48 гадзін прамога эфіру Віцебск пабачыць амаль ва ўсім свеце — дык ці магчыма гэта вымерыць грашыма?

*(Заканчэнне на стар. 4)*

Можна, безумоўна, паспрабаваць аднавіць прыблізны "побыт" жытла, усталяваць "падобныя" ложкі, шафы, крэслы, столікі, але тады ўся гэта мэбля ператворыцца ў чыстую бутафорыю...

**— І які ж шлях быў абраны?**

— Я рэканструяваў нібыта асобныя "куточкі" ў інтэр'ерах, і гэтыя "куточкі" прадстаўляю як своеасаблівыя "нацюрморты". Гэта значыць, я знаходжуся нібы ў адным асяродку, а праз "афармленне" робіцца бачным іншае, "шагалаўскае"... За такое мастацкае вырашэнне мяне крытыкавалі, маўляў, тут больш прысутнічае аўтар праекта, што гэта амаль "музей Чарняка", які "паказвае сябе", сваё бачанне...

**— А што, хіба гэта кепска — паказваць сваё бачанне архітэктурна-планіровачнай сітуацыі і вобразнага пачатку? Такім чынам, засталіся два пакоі: пяты і шосты...**

— Справа ў тым, што менавіта на гэтыя два пакоі матэрыялаў увогуле няма ніякіх: ні малюнкаў, ні фатаграфій, ні рэпрадукцый, не кажучы ўжо пра прадметы... І я падумаў: усё ж такі ў гэтым доме ўзгадаваўся геніяльны мастак. Адсюль ён выйшаў, сюды вяртаўся. І дзе б ён ні жыў — у Германіі, Францыі альбо ЗША, — у думках ён заўсёды вяртаўся сюды, у свой Віцебск, у свой дом на Пакроўскай. Менавіта на гэтай філасофска-эмацыйнай ноце я заканчваю экспазіцыю ў гэтых пакоях.

**— Гэта значыць, ты глядзіш на гэты Дом не проста як на звычайны габрэйскі дамок сярэдняга ўзроўню, а як на Храм, з якога выйшаў вялікі Майстар...**

— Менавіта так. Пяты пакой будзе залай часовых выставачных экспазіцый, дзе, захоўваючы ўнутраны эмацыйны стан, можна паказваць творы мастакоў шагалаўскага асяроддзя, творы яго сяброў і настаўнікаў, майстроў, якія прынеслі славу Віцебску, а таксама кнігі ды альбомы, прысвечаныя гэтаму цудоўнаму часу.

**— Карацей, гэтая зала — своеасаблівы духоўны масток паміж мінулым і будучыняй?**

— Так. Ну, і шосты пакой... Ягоную канцэпцыю цяжка растлумачыць словамі, яго трэба бачыць... Гэта Свет Шагала. Свет ягонага кахання і звычак, свет ягонага Космасу... З гэтай мэтай выкарыстоўваецца слайд з фрагментамі карцін "Над горадам", і тэлевізар, дзе ў пэўныя прамежкі часу дэманструецца 5-хвілінны фільм пра віцебскі перыяд жыцця мастака; і "блакітнае шагалаўскае неба", дзверкі якога будуць адчыняцца, адкрываючы Сусвет, на якім запальваецца зорка Шагала ("астэроід Шагала"). А таксама гукавая частка: вершы мастака будуць дэкламавацца на розных мовах. Тут і знакамітае "акно Шагала", гледзячы праз якое, ён шмат разоў пісаў і маляваў любімы горад і Пакроўскую вуліцу; мальберт, табурэт і палітра — муляж на табурэце... І шмат што яшчэ...

**— Хто працаваў разам з табою?**

— Аўтарамі сцэнарыя экспазіцыі музея з'яўляюцца браты Аркадзь і Міхаіл Шульманы. Маю мастацкую канцэпцыю ў заключнай яе стадыі дапамагаў рэалізоўваць мой калега, таленавіты мінскі мастак, вялікі спецыяліст па музейных інтэр'ерах Уладзімір Капшай.

**Гісторыю стварэння Дома-музея вялікага мастака слухаў**

**Барыс КРЭПАК**

**P.S.** У маім сямейным архіве шмат гадоў захоўваецца рукапісны аркуш-арыгінал Юдэля Пэна (1923 г.), дзе ён з цеплынёй узгадвае пра сваіх вучняў Шагала, Цадкіна, Мешчаракова... Гэты неацэнны дакумент я перадаю ў якасці падарунка Дому-музею Марка Шагала, тым самым робячы свой маленькі ўнёсак у будучае, спадзяюся, вялікае папаўненне Дома "канкрэтнымі" дакументамі, непасрэдна альбо апасродкавана звязанымі з імем нашага вялікага Земляка.

**Б.К.**

*На ілюстрацыях: Праектныя эскізы будучай экспазіцыі Дома-музея. Г.Лебедзеў. Дом-музей Марка Шагала (у працэсе рэстаўрацыі). Малюнак.*

# ВЯРТАННЯ НЕ БУДЗЕ?

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 1)*

Менавіта ў адносінах з нашым самым блізкім саюзнікам назіраецца найбольшае неразуменне па пытаннях вяртання гісторыка-культурных каштоўнасцяў. Зразумела, што, згодна з цэнтраімклівымі тэндэнцыямі ў імперыі, найбольш вартыя беларускія здабыткі перамяшчаліся ў Расію з часоў інкарпарыравання Беларусі ў яе склад, гэта значыць, з часоў падзелу Рэчы Паспалітай. (Можа, таму такія цяжкія і няпэўныя крокі беларускай дзяржаўнасці, значна больш няпэўныя, чым нават якіх-небудзь нованароджаных афрыканскіх ці азіяцкіх краін, што па сутнасці наша дзяржаўнасць рэчава, прадметна не надта абгрунтавана не толькі ад часоў Вялікага княства Літоўскага, але нават ад часоў БНР.) Па словах сп.Бубноўскага, не выпадкова спроба арганізаваць Камісію па рэстытуцыі ў рамках СНД прыпынілася на тым, што да яе не быў нават накіраваны прадстаўнік Расіі. Пазіцыя Расіі зразумелая — з пункта гледжання ўласніка. Дарэчы, калі яшчэ ў часы СССР рабіліся спробы даць навуковае апісанне, напрыклад, украінскіх здабыткаў у складзе расійскіх музейных фондаў, яны былі катэгарычна перарваныя, маўляў, цяпер зробіце апісанні, а потым запатрабуеце вярнуць ва ўласнасць. Аб падобных спробах беларускага боку не паведамлялася.

Па словах гісторыка **Ганны Сурмач**, нават тыя магчымасці, якія існавалі ў свой час адносна вяртання культурна-гістарычных каштоўнасцяў, беларускі савецкі ўрад не надта выкарыстоўваў. Калі пасля вайны Чэхія прапанавала Беларусі забраць архіўныя дакументы, якія засталіся ў Празе ад часоў дзейнасці Рады БНР, часткі асабістых архіваў Пятра Крэчэўскага, Васіля Захаркі і г.д., урад БССР ад гэтай прапановы адмовіўся, маўляў, мы цалкам давяраем Расіі. Між тым, расійскія і ўкраінскія архівы былі перададзены Расіі ў Украіне і цяпер з'яўляюцца складнікамі нацыянальных гістарычных каштоўнасцяў гэтых краін.

**Аляксандр Міхальчанка**, старшыня Дзяржкамітэта па архівах і справаводстве, зазначыў, што большасць беларускіх архіваў сёння сапраўды знаходзіцца за межамі краіны. Але становішча ў архіўнай справе больш чым у якой іншай можа быць выпраўлена на лепшае, бо галоўнае прызначэнне архіваў — захаванне інфармацыі — з пераходам на сучасныя сродкі захоўвання, напрыклад, электронныя, рэалізуецца прасцей, а дзякуючы магчымасці ствараць вельмі якасныя электронныя копіі, фонды нацыянальных архіваў становяцца прыдатнымі для папаўнення. Па словах сп.Міхальчанкі, зыходныя матэрыялы могуць і надалей захоўвацца дзе апынуліся, галоўнае, што ў Беларусі можна цяпер ствараць і сістэматызаваць свае ўласныя фонды, роўныя па гістарычных і інфармацыйных вартасцях зыходным, бо "перамяшчэнне арыгіналаў — задача невырашальная". Зараз трэба перанесці ўвагу архівістаў з захавання дакументаў на захаванне інфармацыі. Гэта тым больш варта рабіць, што ў нашыя часы архівісты сутыкаюцца з праблемай разбурэння паперы — тэрмін існавання сучаснай кіслотавай паперы 50-60 гадоў. Аднак вырашыць пытанне аб захаванні архіўнай інфармацыі на новых яе носьбітах — таксама няпростая справа. Нават на тое, каб узяць удзел у адпаведнай канферэнцыі, што адбудзецца ў другой палове гэтага года ў Лісабоне, нашым навукоўцам нестае грошай. ("Нам хаця б з матэрыяламі пазнаёміцца", — у прыватнай размове прызнаўся сп.Міхальчанка, не спадзеючыся на паездку. Між тым увесь свет ужо некалькі гадоў павязаны "павуціннем" глабальнай камп'ютэрнай сеткі Internet, якая і вырашае праблемы абмену інфармацыяй на любой адлегласці па любых пытаннях. Відавочна, што і такой магчымасці ў беларускіх архівістаў няма, можна здагадацца, што заяўленыя планы пераводу архіваў на электронныя носьбіты яшчэ доўга застануцца планамі.) Аднак тэма выступлення "Вяртанне архіўных каштоўнасцяў на гістарычную радзіму", на маю думку, пададзена была аднабакова.

Зразумела, я не заклікаю да экстрэмісцкіх метадаў вырашэння любых праблемаў па ўзоры раззлаванага прафесара **Паўла Холачака** з Чэхіі, чыё пазапланавае выступленне прагучала на канферэнцыі, нягледзячы на даволі шчыльны расклад, хаця было цалкам не па тэме, а прысвечана... супрацьстаянню Захаду і НАТО (колькі яшчэ гадоў замежнае паходжанне будзе шанавацца ў нас больш за ўсё іншае?) У чым нельга не пагадзіцца з прафесарам — дык гэта з яго думкай, якая прагучала паміж словамі, што абрабаванымі заўсёды застаюцца бедныя краіны. Але ж суверэнная краіна не толькі можа, але і абавязана бараніць свае інтарэсы, у тым ліку і ў справе захавання культурна-гістарычных каштоўнасцяў. І ў гэтай справе Беларусь магла б, напэўна, разлічваць на дапамогу сваіх сяброў і добразычліўцаў. Такое ўражанне склалася пасля выступлення **Валянціна Грыцкевіча** з Санкт-Пецярбурга аб беларускіх матэрыялах у Расійскім дзяржаўным гістарычным архіве. Авацыю выклікала эмацыйнае і дзелавое выступленне **Мікалая Ількевіча** са Смаленскага ўпраўлення Федэральнай службы бяспекі аб выкарыстанні ў навуковых мэтах рассакрэчаных справаў органаў бяспекі Расіі.

Вельмі цікавымі, мяркуючы на назвах, абяцалі быць выступленні навукоўцаў з Германіі, Францыі, Венгрыі, Польшчы, Літвы. Аднак чамусьці большасць іншаземцаў не даехалі да Мінска. Тым не менш удзельнікі мелі магчымасць пазнаёміцца з гісторыяй праблемы, выкладзенай польскім адвакатам **Войцехам Кавальскім** на добрай ангельскай мове. Трохі пазабаўляўшыся тэрмінамі "рэстытуцыя" — "аднаўленне парушаных правоў з кампенсацыяй страт" і "рэпатрыяцыя" — "вяртанне на радзіму", польскі юрыст выказаў думку, што цяпер, пасля развалу СССР, няпростая праблема вяртання каштоўнасцяў краінам-уладальнікам больш падобная на аналагічныя праблемы ў час разбурэння каланіяльных імперыяў. І "ніякім чынам не праводзячы аналогіяў", спадар Кавальскі ўсё ж такі рэкамендаваў часцей ужываць тэрмін "вяртанне" ці "зварот".

Польскі адвакат таксама інфармаваў аб паспяховых перамовах Польшчы з Германіяй і Украінай, зазначыўшы, што ў некаторых выпадках польскі бок не выстаўляў абавязковых прэтэнзій аб звароце тых ці іншых нацыянальных здабыткаў, палічыўшы, што "спадчына месціцца ў правільным месцы" і больш магчыма сумеснае выкарыстанне. (Ці не намёк гэта на верагодныя падобныя перамовы з нашай краінай?) Палякі, таксама як і немцы, не заўсёды імкнуцца рэалізаваць магчымасць, напрыклад, перазахаванняў, палічыўшы за лепшае "ахову на месцы знаходжання" тых ці іншых мемарыялаў, забяспечаную дзяржаўнымі дамоўленасцямі.

Прафесар **Аляксандр Федарук** з Украіны, старшыня Нацыянальнай камісіі па пытаннях вяртання, зазначыў, што вяртанне на Украіну нацыянальных каштоўнасцяў разглядаецца Саветам Міністраў у якасці непазбежнай умовы існавання краіны як "паўнапраўнай еўрапейскай адзінкі". Камісія, якую цяпер узначальвае сп.Федарук, стваралася двойчы: першы раз — у 1918 годзе, другі — у 1993. Найбольш важнай справай Камісіі ён лічыць стварэнне каталогаў страт мастацкіх, музейных, бібліятэчных каштоўнасцяў. Частка гэтых каталогаў ужо выдадзена, другая — рыхтуецца да выдання. Украіна гатовая да дыялогу з іншымі краінамі ў справе вяртання і гэтую гатоўнасць прадэманстравала, напрыклад, вярнуўшы Германіі гравюрны кабінет Дрэздэнскай галерэі. Па словах сп.Федарука, "вяртанне каштоўнасцяў краінам паходжання, ці іх рэстытуцыя — гэта аснова паўнавартаснага функцыянавання культуры".

Пазапланавым, але цалкам адпаведным тэме канферэнцыі было выступленне асабістага госця міністра замежных спраў Беларусі прафесара з Шатландыі **Пітэра Джонса**. Спадар Джонс узначальвае Інстытут гуманітарных даследаванняў, адначасова з'яўляючыся старшынёй Музея Шатландскага будаўніцтва (як высветлілася з выступлення, "будаўніцтва" ў шырокім сэнсе, гэта значыць "заснавання і развіцця"). Даклад шатландскага навукоўца быў вельмі яркай ілюстрацыяй адносінаў да нацыянальных каштоўнасцяў у цывілізаванай унітарнай дзяржаве. Пытанне аб заснаванні Музея Шатландскага будаўніцтва паўстала ў 1979 годзе адразу з лічбай — колькі патрэбна? Разгубленыя навукоўцы ў той час назвалі лічбу амаль удвая меншую, чым згодная была вылучыць дзяржава, але хутка адкарэктавалі яе да тых самых 32 мільёнаў фунтаў. Вывучаючы пытанне, шатландскія навукоўцы даследавалі каля 30 падобных музеяў у абодвух паўшар'ях Зямлі. Прыйшлі да высновы, што неабходна будаўніцтва спецыяльнага комплексу замест прапанаванага раней гістарычнага будынка. Аб'явілі конкурс, на які прыйшло 372 заяўкі, з іх былі адабраныя чатыры праекты архітэктараў і чатыры — не-архітэктараў... Цяпер ужо можна казаць, што да адкрыцця экспазіцыі засталося менеей за год. Экспазіцыя будуецца не толькі па агульнавядомых прынцыпах адбору экспанатаў "хто гэта зрабіў — дзеля каго — аб чым — як — калі — чаму — дзе", але і зыходзячы з галоўнага пытання, якое можа паставіць сучасны заняты чалавек: "Чаму я павінен звярнуць на гэта ўвагу?"

У Шатландыі, дарэчы, ужо рэалізуецца культурна-адукацыйная праграма, згодна з якой усе школы бясплатна забяспечваюцца камп'ютэрным кампактдыскам, на якім змешчана інфармацыя аб стане ўсіх гісторыка-культурных каштоўнасцяў. Гэтая інфармацыя павінна быць вядомая кожнаму, бо "аб'екты не могуць казаць самі за сябе, таму што аб'екты не могуць размаўляць"...

Аб'екты не размаўляюць, так, таму і пачынаецца справа збірання нацыянальных каштоўнасцяў з нудных каталогаў ды архіваў. Як ні дзіўна, у нашай краіне пачынаецца амаль з нуля — зноў, увесь час збочваючы на шлях "сумеснага выкарыстання" нашых здабыткаў. Агляд гэтага працэсу праведзены ў пленарным дакладзе прафесара **Адама Мальдзіса**, аднаго з галоўных арганізатараў канферэнцыі. Назва даклада вельмі сімптаматычная: "Вопыт вяртання культурных каштоўнасцяў на Беларусі: еўрапейская норма ці выключэнне з правілаў?". Спадар Мальдзіс даў згоду на друкаванне свайго даклада ў "Культуры". Наша газета таксама мае намер надрукаваць на сваіх старонках (са згоды аўтараў) урыўкі з іншых найбольш цікавых выступленняў на канферэнцыі, поўная назва якой "Рэстытуцыя культурных каштоўнасцяў: праблемы вяртання і сумеснага выкарыстання (юрыдычныя, навуковыя і маральныя аспекты)".

**Ігар КЛОКАЎ**

# ЗАЙГРАЛА "СКРЫПКА ШАГАЛА.."

***20 чэрвеня ва ўрачыстай абстаноўцы ў Віцебску ў памяшканні Акадэмічнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа адкрыліся ІІ Міжнародны Шагалаўскі пленэр і ІІ Міжнародны фестываль "Скрыпка Шагала".***

У зале тэатра сабраліся шматлікія прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі Віцебшчыны, кіраўнікі абласных і гарадскіх выканаўчых уладаў, госці з Мінска і, безумоўна ж, удзельнікі пленэру — з Беларусі, Швейцарыі, Германіі, Літвы, Расіі, Польшчы, Францыі, Латвіі, Грэцыі — усяго каля трыццаці чалавек.

Свае прывітанне ўдзельнікам шагалаўскіх урачыстасцяў даслаў Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка. Яго прачытаў памочнік Прэзідэнта Сяргей Посахаў. У ім, у прыватнасці, гаворыцца: "Прыемна адзначыць, што ў гэтыя дні на радзіме аднаго з найбуйнейшых мастакоў XX стагоддзя Марка Шагала ў горадзе Віцебску адкрываецца Доммузей і выстава твораў выдатнага майстра, а таксама сабраліся мастакі розных краін свету, каб сваёй творчасцю прадэманстраваць імкненне людзей добрай волі да яднання, да гуманістычных ідэалаў, якія Марк Шагал спавядаў на працягу ўсяго свайго жыцця.

На Беларусі шануюць імя свайго слыннага земляка, высока цэняць духоўную значнасць яго нага мастацтва, што перадае наступнаму стагоддзю эстафету маральнай чысціні і чалавечай годнасці.

Упэўнены, што мерапрыемствы, прысвечаныя юбілею Марка Шагала, стануць важным унёскам у справу ўмацавання супрацоўніцтва творчай інтэлігенцыі розных краін свету і будуць адзначаныя новымі дасягненнямі ў галіне высокага мастацтва.

Жадаю ўдзельнікам ІІ Міжнароднага пленэру імя Марка Шагала творчых удач і новых адкрыццяў на беларускай зямлі, якая была і застаецца калыскай талентаў".

На вечарыне выступілі старшыня Віцебскага гарвыканкама Уладзімір Пелагейка, намеснік міністра культуры Рэспублікі Беларусь Валерый Гедройц, паэт Давід Сімановіч, а таксама ўдзельнікі пленэру Мікалай Кірэеў і Сяргей Цімохаў (Беларусь), Матыяс Вільд (Германія), Сюзана Бауман (Швейцарыя), Аляксандрас Вазбінас (Літва).

Усе прамоўцы адзначалі велізарную важнасць правядзення ІІ Міжнароднага сімпозіума-пленэру імя Марка Шагала для справы не толькі далейшага ўвекавечання памяці вялікага Маэстра XX стагоддзя, але і для ўмацавання творчых і духоўных узаемасувязяў дзеячаў культуры і мастацтва розных рэгіёнаў планеты. Вечарына скончылася вялікім канцэртам Дзяржаўнага камернага хору пад кіраўніцтвам Ігара Мацюхова і ансамбля салістаў "Класік-авангард" пад кіраўніцтвам Уладзіміра Байдава.

У праграме ІІ Міжнароднага Шагалаўскага пленэру і VII Міжнародных Шагалаўскіх чытанняў — адкрыццё выставы літаграфій, акварэляў і гуашаў М.Шагала з музея мастака ў горадзе Ніца (Францыя) і з фондаў спадкаемцаў Маэстра; выстава твораў мастакоў Міжнароднага саюза сяброў мастацтва "Палітра" з Франкфурта-на-Майне (Германія); выставы віцебскіх мастакоў "Я — з Віцебска" і мастацкай фатаграфіі Беларусі, навучэнцаў віцебскай Дзіцячай мастацкай школы № 1 і вырабаў майстроў народнай творчасці, а таксама адкрыццё VII Міжнародных Шагалаўскіх чытанняў і "круглы стол" удзельнікаў пленэру ды мастацтвазнаўцаў.

А скончацца мерапрыемствы 6 ліпеня — у Дзень народзінаў Марка Шагала — урачыстым адкрыццём Дома-музея мастака на ягонай роднай Пакроўскай вуліцы. Вечарам у гарадскім Цэнтры культуры будуць падведзеныя вынікі пленэру, пасля чаго адбудзецца вялікае тэатралізаванае відовішча — "Прысвячэнне Майстру", якое і з'явіцца цудоўным заключным акордам гэтага чароўнага свята — свята Міру, Мастацтва, Сяброўства.

**Наш кар.**

# АКАДЭМІЦКІЯ "ГРАФІЦІ"

Вулічныя самадзейныя "мастакі" дадаюць лішніх клопатаў гарадскім уладам ва ўсім свеце. Мінск напярэдадні свайго свята, здаецца, вырашыў праблему бесконтрольнага роспісу муроў на агульную карысць. Цяпер прыгожы вясёлы ланцужок рознакаляровых "абстрактных" вобразаў адсланяе будоўлю шэрага Палаца Рэспублікі ад шэрага бруку на Цэнтральнай (Кастрычніцкай?) плошчы сталіцы.

Менавіта мэр падаў думку аб "фрэсках" на агароджы, калі яе (былы "мур Цоя ў Мінску") адсунулі ўглыб плошчы. Мэр прапанаваў падумаць аб карцінах з гісторыі сталіцы на шэрым бетоне агароджы. Галоўны архітэктар горада Аляксандр Чадовіч, падумаўшы, звярнуўся ў Акадэмію мастацтваў. І неўзабаве атрымаў контрпрапанову. Сяргей Сілецкі, выкладчык кафедры інтэр'ера і абсталявання, прапанаваў упрыгожыць плошчу лепшымі працамі сваіх студэнтаў: "Ад ідэі да яе рэалізацыі прайшло трохі больш тыдня — дзякуючы таму, што амаль усе эскізы ў свой час прайшлі ў нас у якасці вучэбных прац студэнтаў 1 — 2 курсаў па "Колеравядзенні". Выбраць з іх 41 выяву, з улікам, што яны будуць на бетонавай гранёнай паверхні, і скампанаваць у гарманічны агульны ланцужок было не надта цяжка. Студэнты з захапленнем займаліся гэтай працай, робячы яе ў свой вольны час, зразумела, без аплаты. Гэта наш унёсак у падрыхтоўку свята горада". Студэнты і сапраўды працавалі з гонарам і задавальненнем, напэўна ж дзе-небудзь у кутку кожны з іх пазначыў свой "копірайт".

Таксама задаволеным выглядаў і спадар Чадовіч, калі ў пятніцу, 20 чэрвеня назіраў за пачаткам працы. "На маю думку, апошнім часам, з-за зразумелых матэрыяльных цяжкасцяў, мы амаль не займаліся тым, чым павінны займацца ў горадзе: арганізацыяй прыяльнай прасторы, а не толькі ўзвядзеннем будынкаў. Гэты роспіс — менавіта такая спроба ўладкавання асяроддзя, прыязнага для гараджаніна."

Зробленыя студэнтамі "фрэскі", па разліках, могуць трымацца некалькі гадоў. Спадзяюся, гэтыя разлікі не звязаныя з тэрмінам заканчэння "галоўнага даўгабуду" краіны — Палаца Рэспублікі.

**Ігар КЛОКАЎ**

# ДОБРАГА ШЛЯХУ, КАВАЛЬЧУКІ!

Людміла і Валерый Кавальчукі дваццаць гадоў таму скончылі Абрамцаўскую мастацка-прамысловую вучэльню, і вось ужо семнаццаць гадоў жывуць на Беларусі. Спачатку працавалі на Добрушскім парцэлянавым заводзе, затым — у гарадскім пасёлку Руба, на Віцебшчыне, наладжвалі цэх па творчасці мастацкай керамікі, цяпер ужо некалькі гадоў ствараюць тут унікальнае Хараство і вырабы высокага ўжытковага прызначэння.

Прафесіяналы ў самым лепшым сэнсе гэтага слова, яны працуюць у шматлікіх тэхніках і матэрыялах: у парцэляне і маёліцы, шамоце і "бісквіце", тэракоце і фаянсе, выкарыстоўваюць падглазурныя і надглазурныя роспісы, роспісы па вільготнай эмалі і ангобы. З-пад іх таленавітых рук выходзяць складаныя дэкаратыўныя кампазіцыі і фантастычныя распісныя блюды, казачныя сасуды і вытанчаныя рэльефы, віртуозная дробная пластыка і "канструктывісцкія" гарбатнікі...

Сакавітыя, яскравыя, жывапісныя колеры, што пакрываюць музычна-рытмічныя, нечаканыя формы ў сінтэзе з шырокім спектрам сюжэтаў і тэм, — адметная асаблівасць творчасці Людмілы і Валерыя. Якія толькі тэмы не распрацоўваюць майстры: ад усходняга рынку, мінарэта і карнавала — да сентыментальнага шпацыру і беларускіх песень, ад Дон-Кіхота з ягоным нязменным Расінантам да настальгічнай Масленіцы, ад чароўных Жанчын у капелюшах да лясных салавецкіх азёр...

І ўсё гэта — з ледзь заўважнай іроніяй, добразычлівай усмешкай і душэўнай шчодрасцю.

Нездарма творы мастакоў так цёпла прымалі гледачы на выставах у Мінску і Маскве, Гомелі і Краснаярску, Плоўдзіве і Празе, Франкфурце-на-Одэры і Паланзе, Самаркандзе і Бранску. А цяпер гэтак жа цёпла прымаюць і віцябляне.

Добрага шляху, Людміла і Валерый!

**Б.К.**





*На здымках: Л. і В. Кавальчукі. "З любові да казкі". Чырвоная гліна, ангобы.*

# "СЛАВЯНСКІ БАЗАР": ЯК ТРАПІЦЬ У "ЯБЛЫЧАК"?

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 2—3)*

**— Зараз прэса мусіруе пытанне аб выхадзе Украіны з ліку заснавальнікаў фестывалю "Славянскі базар".**

— Так атрымлівалася, што тры апошнія гады нашы сузаснавальнікі ад Украіны, нашы кампаньёны аказваліся супернесумленнымі. Пераўзышоў усіх апошні кампаньён Фёдар Іванавіч Палянін. Жыццё мяне навучыла кожны свой крок пацвярджаць паперай. У якасці сузаснавальніка Палянін не толькі не заплаціў леташні доўг, але і не рознічыўся з пазамінулымі — ні з расіянамі, ні з намі. Такім чынам, у чарговы раз Украіна прыязджала "на поўную халяву", як кажуць. Заняла першае месца — дай Бог ім здароўя! — атрымала дзяўчына галоўную прэмію ў дзесяць тысяч долараў, прайшоў на ўзроўні і канцэрт майстроў мастацтва Украіны... Але ўсё... за кошт Беларусі і Расіі. Нашы звароты да пана Паляніна, і мае, і Сяргея Віннікава, якія мы дасылалі на працягу года пастаянна, не прывялі ні да якіх вынікаў, нават адказаў няма. Нам нічога не засталося рабіць, як звярнуцца ў Адміністрацыю Прэзідэнта Украіны: калі ласка, паведаміце нам, ці прымалася на афіцыйным узроўні рашэнне аб вызваленні грошай на украінскую долю ў фестывалі, летась атрымалася так і так, маўляў — грошы не прыйшлі ні на Беларусь, ні ў Расію.

**— І які ж адказ з афіцыйных крыніц?**

— 18 лістапада 1996 года, праўда, ужо пасля фестывалю, была заключана дамова з фірмай Фёдара Іванавіча Паляніна, і да 25 мая 1997 года на яе разліковы рахунак паступіла 401 тысяча грывен, гэта больш за 200 тысяч долараў. Так што ў нас ёсць інфармацыя, што грошы гэтыя атрымалі. Як паабяцалі нам Мінфін і Мінкульт Украіны, яны разберуцца з сітуацыяй і потым паведамяць. Такім чынам, калі раздаваць прызы па арганізацыі фестывалю, Фёдар Іванавіч заваяваў бы Гран-пры за несумленнасць.

**— Дык што, новая намінацыя "СБ"?**

— На першай жа прэс-канферэнцыі абавязкова зраблю гэтую прапанову...

**— І ўсё ж, чым завяршылася гэтая гісторыя? Не можа ж з-за аднаго чалавека пакутаваць цэлая дзяржава? Я маю на ўвазе — удзел Украіны ў "СБ".**

— Сёлета, улічваючы пастаянныя звароты ў самыя высокія інстанцыі, па даручэнні Прэзідэнта і з дапамогай прэм'ер-міністра Беларусі, мы выйшлі на ўрад Украіны з прапановай: звярнуць увагу на "СБ" і ўзяць удзел у ягоным фінансаванні. Гэты дакумент меў рэзананс. Прынята такое рашэнне: украінскую мастацкую дэлегацыю будзе ўзначальваць народны артыст Украіны Барыс Георгіевіч Шаваравка, дырэктар Цэнтра мастацтваў пры Міністэрстве культуры Украіны. Гэты чалавек, вельмі сумленны і прафесійны, унёс прапанову: пакуль разбіраюцца з леташнім канфліктам, няхай Украіна, прымаючы ўдзел у фестывалі, заплоціць цалкам за сябе. Не як заснавальнік у долі, а аплоціць пражыванне, харчаванне, трансляцыю, транспарт...

**— Фактычная акрэдытацыя?**

— Так, можна сказаць акрэдытацыя. А на наступны год прыме ўдзел як паўнавартасны ўдзельнік-заснавальнік. Самае адметнае, што мы ўжо сёння ад Украіны за акрэдытацыю атрымалі на рахунак "СБ" у два разы больш грошай, чым атрымалі за усе гады, калі краіна была ў якасці заснавальніка. Для параўнання: летась ніводнай капейчыны не прыйшло, пазалетась — толькі 20 тысяч долараў. А сёлета Украіне акрэдытацыя будзе каштаваць 50 тысяч долараў. І гэтыя грошы ўжо паступілі на рахунак фестывалю. Бачыце, Украіна не з'яўляецца заснавальнікам, а грошы ў Віцебск прыйшлі раней за беларускія...

**— Атрымліваецца, што дзяржава Украіна праявіла сябе як карэктны партнёр, а вось не мінулагодні папярэднік-камерсант...**

— Так-так, гэта менавіта той выпадак. Я ж не кажу пра ўсе камерцыйныя структуры, што задзейнічаны ў фестывалі... Дарэчы, Украіна — адзіная дзяржава на гэты момант, якая зрабіла спецрэкламу для прэзентацыі сваіх майстроў мастацтва на "СБ". І мы ўжо сёння ведаем, колькі чалавек прыедзе, якім відам транспарту і калі.

**— Конкурс фестывалю — менавіта тое, дзеля чаго фактычна збіраецца форум падобнага кшталту. Што на сёлетнім конкурсе чакае Беларусь? Летась, на жаль, мы не трапілі ў "яблычак"...**

— Думаю, што якраз сёлета ўпершыню за многія гады ёсць нейкая рэальнасць перамогі. Вядома ж, калі нашы айчынныя члены журы, як было раней, самі сябе не "адсцябваюць". Я разумею выраз "прынцыповасць пазіцыі", але недабор літаральна аднаго бала нашай выканаўцы... Урэшце Бог з ім, хай гэта застанецца на творчым сумленні аднаго з членаў леташняга журы... Сёлета журы ўзначальвае Ігар Міхайлавіч Лучанок, у склад журы ад Беларусі ўваходзяць таксама паэт Уладзімір Някляеў і Старшыня Дзяржтэлерадыёкампаніі Рыгор Кісель. У гэтым годзе мы паспрабавалі пашырыць рамкі журы — запрасілі кіраўнікоў нацыянальных тэлерадыёкампаній. Маскву, TV-6, будзе прадстаўляць Іван Дзямідаў. У склад журы ўвайшлі таксама некалькі дырэктараў буйных фестываляў. Што тычыцца маладых выканаўцаў, дык у конкурсе ад Беларусі выступіць наша зямлячка з Оршы Марына Жолудзева і мінчанка Стэла Караганава — салістка Дзяржаўнага канцэртнага аркестра. Я іх бачыў на працягу ўсіх тураў "Зорнай ростані" і думаю, што яны павінны годна прадставіць нашу дзяржаву. На жаль, не магу параўнаць іх з выканаўцамі з іншых краін, бо не ведаю, хто прыедзе, але калі браць мінулы год, дык нашы дзяўчаты — далёка не з горшых. Так што надзея ёсць...

**— І апошняе, Радзівон Міхайлавіч. Цяпер ужо не па фестывальнай праблематыцы, а па пленэрнай. Пару дзён таму я бачыла тэлеперадачу, у якой Вы выказалі думку: мастацкі кіраўнік Шагалаўскага пленэру павінен быць прызначаны тут, у Віцебску...**

— Шагалаўскім пленэрам мы займаемся ўжо другі раз. І на Першым і на Другім пленэрах у нас узнікаюць вялікія праблемы. Не ў мяне асабіста, не ў маіх службаў, якія займаюцца гасціннасцю або харчаваннем. Узнікаюць пытанні, якія нейкім чынам "рыкашэцяць" на ўдзельнікаў пленэру. Доўгі час увогуле мусіравалася пытанне: быць ці не быць пленэру? Потым з'явіўся загад, у якім называецца прозвішча прызначанага мастацкага кіраўніка, вядучага спецыяліста Міністэрства культуры рэспублікі. Сёння пайшоў трэці дзень пленэру, але на тэрыторыі, дзе ён адбываецца, мастацкага кіраўніка няма. Так было і ў мінулы раз. Мала таго, мастакам былі паабяцаны залатыя горы. У нас зараз праблема з мастачкай з Грэцыі. Маладая дзяўчына прыйшла да мяне з прэтэнзіяй: "Кепскі нумар у гатэлі, мне абяцалі майстэрню, дзе я буду працаваць адна, мне абяцалі..." Я не ведаю, хто каму што абяцаў. У мяне асабіста няма ніводнага ліста, дзе адзначана тое, што ўдзельнікам гарантавалася і што ім трэба было прадастаўці...

**— Дарэчы, адзін мастак з Беларусі таксама паскардзіўся, што павінны былі выдаць чатыры палотны, а далі адно. Як гэта?**

— Грошы мы атрымалі тры тыдні таму. Загадзя набыць на тэрыторыі Беларусі нармальныя фарбы і пэндзлі практычна немагчыма, асабліва ў Віцебску. У Мінску мы скупілі ўвесь мастацкі салон, прынамсі, палотны, якіх нам хапіла толькі на 50 работ. Мастакам было абяцана, што атрымаюць яны па 4 палотны, падрамнікі і г.д. Але ж мы павінны былі пра гэта ведаць? Ведаць пра тое, што падрамнікаў трэба не 100, а 120 штук, бо прыехалі незаяўленыя ўдзельнікі. Зараз высвятляецца, што палячцы трэба прасейваць пясок, бо яна яго выкарыстоўвае ў сваёй тэхніцы, а фотамастачцы з Францыі патрэбна вельмі дарагая плёнка і яшчэ невядома што — агульным коштам у пару тысяч долараў. Словам, вяртаючыся да Вашага пытання, яшчэ раз скажу: на нашу думку, арганізацыйны цэнтр па пленэры павінен базіравацца тут, у Віцебску, каб працаваць не праз тэлефоны і факсы, а карэкціраваць усё на месцы...

**— Дзякуй, Радзівон Міхайлавіч, і поспехаў!**

**Людміла КРУШЫНСКАЯ**
*Віцебск — Мінск — Віцебск*

# "BRAVO!" — ЗНАЧЫЦЬ "МАЛАЙЧЫНА!"

**20 чэрвеня ў Нацыянальным мастацкім музеі адбылося ... Не, не адкрыццё мастацкай выставы — у гэты час, побач з асноўнай экспазіцыяй, у музеі ўжо праходзяць адразу тры цікавыя выставы — графікі Наталлі Апіёк, постэраў англічаніна Пітэра Блэйка і літаграфіяў і гуашаў Марка Шагала. У гэтым стракатым акружэнні адбылася нетыповая, але і не такая ўжо рэдкая з'ява — канцэрт камернай музыкі. Асаблівасцю гэтага канцэрта было тое, што ён падрыхтаваны саветнікам па культуры французскай Амбасады спадаром Франсуа Ларанам, а прымеркаваны — да Сусветнага свята музыкі.**

Свята музыкі 21 чэрвеня адзначаюць больш за 85 краінаў свету, па ініцыятыве французскага міністра культуры Жака Ланга з 1981 года. Беларусь ужо другі год запар у ліку гэтых дзяржаў. Аднак канцэрт у музеі вызначаецца, на маю думку, больш за ўсё тым, што ён прышоў напрыканцы канцэртнага сезона і лагічна дазволіў французам падвесці вынік працы за год. Аб цікавых, высокага мастацкага густу культурных падзеях, падрыхтаваных на Беларусі французскай амбасадай, "Культура" не аднойчы распавядала сваім чытачам: гэта і гастролі балетных і іншых тэатральных труп, мастацкія выставы (у тым ліку і тая, што цяпер праходзіць у музеі, а пазней паедзе ў Віцебск — з твораў Шагала), рэтраспектывы французскіх фільмаў. Апошняя з іх — лепшыя фільмы з удзелам Алена Дэлона, пачынаючы ад "Самурая" і да "Вяртання Казановы", якія дэманструюцца ў Палацы культуры прафсаюзаў з 17 чэрвеня па 1 ліпеня. (Дарэчы, гэтая рэтраспектыва прымеркавана да 60-годдзя "куміра ўсіх жанчын" і складаецца з дзесятка карцін, якія адабраныя з першапачатковых 50-ці дэлонаўскіх фільмаў з Французскай сінематэкі. Праграма рэтраспектывы ўзгоднена з самім акцёрам, яна пройдзе ў некалькіх краінах, але Беларусь сярод іх — першая. На жаль, да нас па тэхнічных прычынах не даехала "Новая хваля", таму беларускія кінаманы ўбачаць дзевяць фільмаў.)

Канцэрт прыйшлі паслухаць крыху больш за сто слухачоў — больш у музеі проста не размясцілася б, — сярод іх: прадстаўнікі дыпламатычнага корпуса, міністэрстваў замежных спраў, адукацыі, культуры Беларусі, вышэйшых навучальных установаў, асацыяцыі дружбы "Беларусь — Францыя". У прадмове да канцэрта спадар Ларан адзначыў, што такім чынам амбасада хацела б падзякаваць сваім сябрам за супрацоўніцтва ў справах культуры, дзякуючы якому французская культура і наогул Францыя сталі больш вядомыя беларусам.

Канцэрт складаўся з твораў французскіх кампазітараў і рускіх рамансаў. Прагучалі таксама дзве беларускія песні — "Явар ды каліна" і "Чабарок". Поспехам канцэрт абавязаны складу выканаўцаў — піяністцы Тацццяне Старчанка з Белдзяржфілармоніі і сям'і Громавых — спявачцы Тацццяне, гітарысту Валерыю і іхняму сыну Уладзіміру, які скончыў музычнае вучылішча двойчы — па класе гітары і па вакале. Эмацыйная манера выканання Тацццяны Громавай не аднойчы выклікала бурныя апладысменты. І ўсё ж слухачы па заканчэнні дзякавалі не толькі выканаўцам, але і арганізатару. Так, прафесійная актыўнасць спадара саветніка Франсуа Ларана на маю думку заслугоўвае асаблівай падзякі з боку беларускай грамадскасці.



А ад сябе асабіста скажу коратка: "Bravo, monsieur Laurent!"

**Ігар КЛОКАЎ**

# "НАСПЕЎ ЧАС НАРАДЖЭННЯ СВЯТЛА..."

**Наталля Апіёк:** "Наспеў час, калі мовай мастацтва павінны вымавіцца важныя словы.

Дух вандравання і пошуку, што напаўняе тугою чалавечыя сэрцы, цяпер, як ніколі, шукае выйсця. Нам прапаноўваецца безліч хаатычных варыянтаў. Але душа сумуе ў пошуках Духу. І мы, служыцелі культуры, сёння, нібы воіны, адказныя за прасякаючыя нас энергіі, што ператвараюцца ў такую магутную зброю, як твор мастацтва. Наспеў час нараджэння Святла... Наша Зямля — планета Любові. І ўсе мы — дзеці яе і вучні. Мы з круга ў круг вучымся кахаць, а не весяліцца ў прывідным хаосе "культурнай" весялосці альбо ў какафоніі колераў і словаў... Ствараючы карціны, я спрабую стварыць прастору ў сабе і прастору вакол сябе, дзе б энергетычная хваля ператварала модулі чалавечай свядомасці ў накірунку да вышыні духу..."

Выстава графікі і скульптуры "Шлях Еўфрасінні Полацкай" Наталлі Апіёк экспануецца ў Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь.

**Наш кар.**



*На здымку: Н.Апіёк. З серыі "Шлях Еўфрасінні Полацкай".*

# ЮРЫЙ ДЫ АЛЕНА

У краязнаўчым музеі Нясвіжа — выстава. Свае жывапісныя творы і стылізаваныя касцюмы паводле гістарычных рэмінісцэнцый паказалі таленавітыя мастакі — Юрый Піскун і ягоная жонка Алена Юр'ева. Юрый — выкладчык кафедры мадэлявання аддзення і мастацкага ткацтва Беларускай акадэміі мастацтваў, Алена —мастак па касцюмах, працуе ў ансамблях "Харошкі" і "Бліскавіца".

Экспазіцыя мае назву "Адкрыццё часу" і, натуральна, прысвечана, у асноўным, гісторыі Беларусі і тэме Нясвіжа, у прыватнасці. Праз гістарычныя партрэты, карціны, пейзажы, касцюмы аўтары "ўваходзяць" у родную гісторыю, асэнсоўваючы яе як духоўную плошчу нацыі, як натхняючую крыніцу адраджэння не толькі ўласна нацыянальнай культуры, але і адраджэння светлай чалавечай душы на складаных растанях сённяшняга станаўлення нашай дзяржавы.

Выстава адбылася дзякуючы ініцыятыве дырэктара музея Яўгеніі Квяткоўскай. Менавіта яна і наладзіла потым творчую сустрэчу Ю.Піскуна і А.Юр'евай са студэнтамі Мінскай мастацкай вучэльні і з нясвіжскай інтэлігенцыяй, у якой узялі ўдзел начальнік аддзела музеяў і выстаў Міністэрства культуры Беларусі Сяргей Маслоўскі, галоўны спецыяліст аддзела, жывапісец Уладзімір Уродніч, выкладчык Беларускай акадэміі мастацтваў, мастацтвазнаўца Міхась Баразна ды іншыя...

**Наш кар.**

*На здымку: Агульны выгляд экспазіцыі выставы твораў Юрыя Піскуна і Алены Юр'евай.*



# ЦІ РАЗМАЎЛЯЕЦЕ ВЫ ПА-ФРАНЦУЗСКУ?

У адпаведнасці з праграмай супрацоўніцтва паміж Міністэрствам адукацыі Рэспублікі Беларусь і Амбасадай Францыі на Беларусі пачынаючы з новага навучальнага года на базе сярэдняй школы з паглыбленым вывучэннем французскай мовы № 74 г.Мінска адкрываецца асобны клас, дзе навучанне будзе праходзіць на дзвюх мовах: рускай і французскай. Па-французску будуць выкладацца літаратура і гісторыя Францыі, эканоміка і сацыялогія. Пасля заканчэння школы выпускнікам будуць выдадзеныя атэстаты спецыяльнага ўзору і сертыфікат ад Амбасады Францыі. Навучанне ў двухмоўных класах дасць выпускнікам добрую падрыхтоўку для паступлення ў вышэйшыя навучальныя ўстановы, у тым ліку і ў франкафонныя ВНУ на Беларусі.

З наступнага года будзе разглядацца магчымасць прадастаўлення льгот уладальнікам атэстатаў спецыяльнага ўзору пры паступленні ў некаторыя беларускія ВНУ.

Выкладанне франкафонных дысцыплін будзе праводзіцца выкладчыкамі сталічных ВНУ, якія прайшлі стажыроўку ў Францыі, а таксама супрацоўнікамі Амбасады Францыі ў РБ.

Навучанне ў двухмоўных класах бясплатнае.

Другія адборачныя іспыты для тых, хто паступае ў восьмы двухмоўны клас, праводзяцца з 10 па 12 верасня 1997 года. Кандыдатам трэба здаць два іспыты: па французскай (пісьмова, вусна і суразмова) і па рускай мовах (дыктант).

За даведкамі звяртацца па тэлефонах: 224-29-79; 224-29-81 (СШ № 74) і 210-28-68 (Амбасада Францыі).

# ЗА ПУЛЬТАМ — ІТАЛЬЯНЕЦ...

У Мінску і Магілёве быў выкананы адзін з найвялікшых твораў сусветнай музычнай класікі — араторыя Георга Фрыдрыха Гендэля "Месія". Цудоўная музыка прагучала ў выкананні хору Беларускай акадэміі музыкі пад кіраўніцтвам народнага артыста СССР, прафесара Віктара Роўды і камернага аркестра на чале з заслужаным артыстам Беларусі Валерыем Сарокам.

Безумоўна, поспех салістаў і спевакоў хору шмат у чым быў прадвызначаны тым, што за дырыжорскім пультам стаяў маэстра Пелукі — выбітны прадстаўнік італьянскай школы дырыжыравання. Гэтая школа мае шматвяковыя традыцыі і заснавана на дасканалым веданні голасу, вакалу.

Маэстра, выпускнік кансерваторый Вероны і Балонні па спецыяльнасцях дырыжыраванне, фартэпіяна, кампазіцыя, які скончыў таксама Венскую акадэмію музыкі і "Mozarteum" у Зальцбургу, актыўна выступае з канцэртнымі праграмамі ў Еўропе, выдае кампактдыскі, працуе як дырыжор-пастаноўшчык (оперы "Тоска" Дж.Пучыні, "Рыгалета" Дж.Вердзі). Апрача гэтага, ён з'яўляецца мастацкім кіраўніком асацыяцыі "Harmonia-Gentium" у горадзе Лекка (Італія), а таксама ўдзельнічае ў міжнародных конкурсах у Францыі і Італіі ў якасці члена журы.

Заслуга дырыжора — надзвычайная цэласнасць выканання грандыёзнага твора Гендэля. Маэстра ўласцівыя цалкам італьянскі тэмперамент у спалучэнні з асэнсаваннем і глыбінёй трактоўкі музыкі вялікага кампазітара. Магічны рух дырыжорскай палачкі адкрыў гледачам здзіўляючы вобразна-гукавы свет: слухачы, сцяўшы дыханне, слухалі цудоўную музыку уверцюры і пастаралі, былі літаральна ўражаны яскравай "Алілуйя" і магутным фіналам "Amen".

Сапраўды, высокае мастацтва перамагае, надаючы нам новыя сілы, веру і надзею. Хочацца пажадаць поспехаў таленавітай моладзі, спадзеючыся на плённыя кантакты і больш частыя сустрэчы на беларускай зямлі са слыннымі дырыжорамі свету. І, безумоўна ж, публіка з нецярплівасцю чакае новых прэм'ер — бо шмат цудоўных музычных твораў яшчэ не запатрабаваныя нашымі выканаўцамі.

**М.ПАРАХАЎНІЧЭНКА**

# МЯЖА — РЭЧ УМОЎНАЯ

Калі беларус гаворыць "памежжа", дык можна быць упэўненым, што ён мае на ўвазе не Гомельшчыну, якая мяжуе з Украінай, і не Віцебшчыну, якая мяжуе з Расіяй, а Берасцейшчыну альбо Гарадзеншчыну. Так нас прывучылі, што мяжа толькі на захадзе. Таму, калі гаворка заходзіць аб праблемах памежжа і сумежжа, то гэта значыць — пра Заходнюю Беларусь. Не дзіўна, што і Міжнародная канферэнцыя па культуры сумежжа (яе ладзілі Міжнародная акадэмія вывучэння нацыянальных меншасцяў са штаб-кватэрай у Берасці і Рэспубліканскі цэнтр нацыянальных культур Міністэрства культуры РБ, шэраг іншых дзяржаўных і грамадскіх установ) адбылася ў Гародні 3 — 4 чэрвеня. Афіцыйная назва гэтай сустрэчы навукоўцаў Беларусі, Літвы, Польшчы, Германіі — "Культура беларуска-польска-літоўскага сумежжа". Даклады былі скампанаваны па чатырох тэматычных групах (секцыях): Гісторыя ўзаемаўплыву культур, Міжкультурныя ўзаемадзеянні і кантакты, Этналінгвістычныя асаблівасці сумежжа, Пытанні рэгіянальнай адукацыі.

Што датычыць гісторыі, то тут усё больш-менш зразумела. Поліэтнічны і поліканфесійны характар Вялікага княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай сумнення не выклікае. Зразумела, што сучасны навуковец у залежнасці ад сваёй нацыянальнай і культурнай прыналежнасці будзе цягнуць у свой бок, калі паўстане пытанне "якія культура, рэлігія і этнас дамінавалі ў ВКЛ і Рэчы Паспалітай?" Але, зрэшты, гэта не той выпадак, калі трэба лезці ў бойку: у культурна-гістарычнай скарбніцы "сумежжа" кожнаму з сённяшніх народаў-спадчыннікаў хопіць велічы і славы. Тут можна нееж дамовіцца.

Цяжэй высветліць перспектыву. Надта ж розныя сёння краіны Беларусь, Літва і Польшча. Розная палітычная арыентацыя, розная ступень эканамічнага і культурнага суверэнітэту. Да таго ж рэальная палітыка — гэта справа не навукоўцаў, а тых, хто валодае рэальнай уладай. Навукоўцы могуць параіць, як захаваць культурныя каштоўнасці сумежжа, як абараніць нацыянальныя меншасці ад асіміляцыі. Аднак зусім не абавязкова гэтыя парады будуць прыняты ўладай нават да ведама.

Гістарычны досвед беларуска-польска-літоўскага памежжа ў нашым стагоддзі досыць трагічны. Кожны з названых народаў зведаў жахі палітычных рэпрэсіяў, дэпартацый, змены палітычных рэжымаў (наступны — не лепей за мінулы), перасоўванне памежных слупоў, адным словам — крыўдаў хапае.

І ўсё ж напамінак пра адзіную, часта непадзельную спадчыну дае надзею на сённяшняе паразуменне і будучае супрацоўніцтва. Па вялікім рахунку, мяжа — рэч даволі ўмоўная...

**Наш кар.**

# ПРЫГОРНЕМСЯ РАЗАМ ДА ПАЭТА...

***Настрэчу 115-й гадавіне народзінаў Янкі Купалы.***

4-га ліпеня, а 13-й гадзіне, каля помніка Паэту ў парку Купалы звернемся да нашага Прарока малітоўна і годна — тым словам і той песняй, што тулім у чуйных сэрцах. Збіраймася ж "на сход, на вялікі сход — па Бацькаўшчыну".

*Случанскія весткі*

# ПОМНІКІ ТРЭБА АХОЎВАЦЬ

Адбылася ўстаноўчая канферэнцыя раённага аддзялення Беларускага добраахвотнага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры. На канферэнцыі прысутнічалі 47 дэлегатаў.

Галоўная задача нанова ствараемага таварыства — ахова і захаванне помнікаў гісторыі і культуры нашага краю, бо гэта не толькі даніна памяці, гэта — гісторыя. А захоўваць ёсць што — на Случчыне цяпер звыш 180 помнікаў, у тым ліку 74 брацкія магілы.

Раней у раёне было каля 13 тысяч членаў добраахвотнага таварыства, а цяпер прыходзіцца нанова стварыць старую арганізацыю.

**Наш кар.**

МНОГАЕ Ў МАЛЫМ




КІТЫ

# ЧЭРВЕНЬ НАРАДЗІЎ АЎГУСТА

Вольга БУРЛО

***У Нацыянальным тэатры імя Янкі Купалы адбылося сапраўднае свята. 16 чэрвеня 1997 года споўнілася шэсцьдзесят гадоў вядомаму і любімаму многімі народнаму артысту Беларусі, лаўрэату Дзяржаўнай прэміі Аўгусту Мілаванаву. Тое, што на юбілейны вечар прыйшла такая колькасць прадстаўнікоў творчай інтэлігенцыі, прыхільнікаў таленту гэтага артыста, сведчыць пра яго бясспрэчную прафесійную і чалавечую перамогу. За плячыма Аўгуста Мілаванава цікавае творчае жыццё, шмат незабыўных роляў у тэатры і кіно, сустрэчы і сяброўства са знакамітымі і легендарнымі людзьмі.***

***Тыя, хто бачыў Аўгуста Лазаравіча на сцэне, ніколі не забудуць пагляду яго выразнасумных вачэй, за якім схавана столькі жыццёвай мудрасці і вопыту і ў той жа час нейкай дзіцячай "задзірыстасці" і гарэзлівасці. Магчыма, таму ўсе персанажы, створаныя артыстам на сцэне, набывалі свой непаўторны "мілаванаўскі" шарм, за які і любяць яго многія жанчыны і, я мяркую, не перастануць любіць. Як прызнаўся сам Аўгуст Лазаравіч, ролі, за якія яму не сорамна перад самім сабой, можна пералічыць па пальцах. Але ці можна забыць шэраг бліскучых роляў, створаных на сцэне Купалаўскага тэатра: Зурыко ў спектаклі "Я, бабуля, Іліко і Іларыён" Н.Думбадзе; Гэлі Гэй у "Што той салдат, што гэты" Б.Брэхта; Герастрат у спектаклі "Забыць Герастрата" Р.Горына; Тэўе ў "Памінальнай малітве" Р.Горына; Ромул у "Ромуле Вялікім" Ф.Дзюрэнмата; Вяршынін у "Трох сёстрах" А.Чэхава, і гэта, безумоўна, далёка не ўсе ролі, але бясспрэчна найлепшыя.***

***Юбілей — гэта час падвядзення рахункаў, асэнсавання сябе ў жыццёвай прасторы, і за ўсёй славай і святочнай мітуснёй стаіць чалавек са сваімі пачуццямі і ўспамінамі. Жыццё праходзіць вельмі хутка, і застаюцца яскравыя і незабыўныя ўспаміны, якія адбіваюцца ў памяці чалавека ярка і выразна. Сустрэўшыся з Аўгустам Мілаванавым напярэдадні юбілею, я папрасіла яго распавесці пра самыя яркія, хвалюючыя і запамінальныя моманты яго жыцця. Зразумела, што слава і поспех прыходзяць да чалавека праз пакуты і выпрабаванні.***

### З дзяцінства

...Я нарадзіўся 16 чэрвеня 1937 года ў Сталінградзе і таму я яшчэ памятаю вайну. Я добра памятаю той жах 1942 года. Мне было тады пяць гадоў, і мы апынуліся на нейтральнай зоне. Нашыя адышлі да Волгі, а немцы яшчэ не падышлі. Мы сядзелі ў акопах, і нас абстрэльвалі з усіх бакоў. Як мы выжылі, як уцалелі?.. Вось тады я ўпершыню ўбачыў забітых, шэрых людзей, якія ляжалі на зямлі... Гэта зрабіла на мяне страшэннае ўражанне.

Потым прыйшлі немцы і нас пагналі ў палон у Растоўскую вобласць і рассялілі па вёсках. Ёсць такая станцыя Белая Калітва, вось там мы і жылі спачатку на адкрытым рынку пад навесам. А ўжо кастрычнік быў, і калі мы прачыналіся раніцай, то коўдра была чамусьці белая. І вось аднойчы, калі я гуляў з дзецьмі, мяне піхнулі і я стукнуўся аб нешта вострае (з таго часу нават шрам застаўся). Я крэпка разбіў галаву, мне зрабілася вельмі дрэнна, не мог нават стаяць на нагах, карацей, я "аддаваў канцы". А маці ў мяне была прыгажуня, натуральная бландзінка. Яна ўгаварыла нямецкага хірурга, каб зрабіў мне трэпанацыю чэрапа і аперацыю... І вось я жывы да гэтага часу, і вялікі дзякуй таму доктару. Я памятаю, як усё наўкол гарэла, калі немагчыма было дыхаць, калі рот лепіць гэтым пажарышчам і адчуванне такое, быццам адбылося вывяржэнне вулкана. Гэтага ні ў адным кіно не ўбачыш.

Вось такое дзяцінства было і такія яркія ўспаміны.


Фота Уладзіміра КРУКА

### Са студэнцкага жыцця

...У Мінск я прыехаў у 1957 годзе паступаць у інстытут, а перад гэтым я год працаваў пампрэжам у Сталінградскім драматычным тэатры і ганаруся тым, што быў першым памрэжам у першай пастаноўцы п'есы "Бег" Міхаіла Булгакава. І вось там я зразумеў, што тэатр — гэта вельмі сур'ёзная справа. І можа таму я прыехаў паступаць у Мінск нейкім пасталелым хлопцам. Мне тады быў дваццаць адзін год і я вельмі сур'ёзна і свядома хацеў навучыцца прафесіі. Мажліва, многія мяне не ўспрымалі і не прымалі. Я проста "цягнуў, як конь", і на кожны экзамен у мяне было па сем-восем урыўкаў. І, магчыма, таму ў мяне застаўся толькі адзін, самы светлы ўспамін са студэнцкага жыцця — гэта наш педагог Дзмітрый Аляксеевіч Арлоў. Яго вось ужо трыццаць гадоў, як няма, але я яго ніколі не забываў, і для мяне яго меркаванне было і застаецца ўсім. Яшчэ засталіся людзі, словы якіх для мяне як прысуд, але, на жаль, такіх людзей усё меней і меней.

### З тэатральнага жыцця

...Пасля размеркавання ўвесь наш курс паехаў у Віцебск (акрамя Наталлі Туравай і Бэлы Масумян). Я адпрацаваў там год, сыграў шэсць ці сем роляў і адчуў, што мне трэба кідаць гэты тэатр. І вось у 1962 годзе я прыйшоў у тэатр імя Янкі Купалы. І трыццаць пяць гадоў я працую ў ім. Я помню ўсіх тых, хто служыў у тэатры. Я ніколі не забуду свайго апекуна і заступніка Сцяпана Сцяпанавіча Бірылу. Быў час, калі мяне ахапіла дэпрэсія і я збіраўся нават пакінуць тэатр, таму што пачалі мяне "даставаць" з ЦК КПСС за тое, што я выступаў на сходах, а яшчэ нехта з "сяброў" пусціў чутку, што мы з жонкай Галінай Талкачовай збіраемся ў Ізраіль. А я нават пра гэта нічога і не ведаў, толькі адчуваў, што нешта не тое адбываецца. Першы на гэта мне раскрыў вочы рэжысёр Віталь Чацверыкоў, у якога я шмат здымаўся. Ён сказаў: "Ты што, хочаш, каб мае ўсе фільмы паклалі на паліцу?". Я нават адразу і не зразумеў, пра што ідзе гаворка. І вось якраз у гэты час мяне падтрымаў Сцяпан Сцяпанавіч Бірыла, ён некуды хадзіў і нават паставіў пытанне аб тым, каб мне далі званне.

Помню сяброўства і падтрымку Яўгена Аляксеевіча Лебедзева, якога, на жаль, ужо няма з намі. Мы разам здымаліся ў 1976 годзе ў казцы, ён карала іграў. Здымкі праходзілі ў Львове. У Дзень тэатра мы ўвечары пайшлі да Яўгена Аляксеевіча ў нумар і прасядзелі там да чатырох гадзінаў ночы. Ён паказаў мне вялікае мноства эцюдаў, амаль усе свае ролі, было неверагодна весела і я так рагатаў, як ніколі ў жыцці. Назаўсёды запомнілася і апошняя работа з Барысам Эрыным у спектаклі "Памінальная малітва" Рыгора Горына, вельмі цяжкая, пакутлівая і ў той жа час прыемная і радасная работа... Працаваў з Валерыем Раеўскім. Я прыйшоў у тэатр у 1962 годзе, а ён у 1968 годзе. Калі працуеш з такімі рэжысёрамі, то адчуваеш спакой за тое, што работа атрымаецца.

### Самыя запамінальныя гастролі

...Самыя запамінальныя гастролі ў нас былі ў Кіеве, туды мы ездзілі кожныя чатыры гады і нас там заўсёды цудоўна прымалі. Вельмі мне спадабаліся апошнія гастролі ў Северадзвінску пад Архангельскам, гэтыя белыя ночы, нейкае цудоўнае ўражанне. А яшчэ я люблю гастролі па раённых цэнтрах: Клецк, Чашнікі, Нясвіж... У Клецку, напрыклад, быў адзін светафор і вулачкі такія маленькія. А раніцай прачынаешся і чуеш, як куры квохчуць, свіння рохкае і такі спакой ад усяго гэтага...

### Планы на будучыню

...Мне прапанавалі ў ТЮГу ролю добрага аўтара Карла Гоцы з добрым рэжысёрам з Масквы Мікалаем Шыйко, так што з восені я буду мець работу. Акрамя таго мяне ўгаварылі паставіць камедыю ў народным тэатры "ЭХО" ў Палацы культуры прафсаюзаў. Я сам пачынаў з самадзейнасці і таму памятаю пункт адліку...

### Пажаданне самому сабе ў юбілей

...Я б сабе пажадаў здароўя і міру ў сям'і. Шэкспір у сорак пяць гадоў "плюнуў" на ўсё, разумеўшы, што творчасць нікому не патрэбная, і ўжо да канца свайго жыцця не напісаў ніводнага радка. Апошнюю ягоную п'есу "Буру" мы ігралі, на мой погляд — жудасная п'еса.

Усім пажадаю міру ў душы і гармоніі.

АКВАТОРЫ-Я!



## "З ІМІ — ДЗЯДЗЬКА БУТАФОР"

Сёлетні тэатральны сезон — шаснаццаты для Алега Рыбакова. Ён — не выканаўца галоўных роляў, не заняты ў масоўках... Але без ягонага ўдзелу ні адзіная пастаноўка не здзейсніцца. Алег Рыбакоў — бутафор Магілёўскага абласнога драматычнага тэатра.

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БелТА.**

РЭПЛІКА

# МАГЧЫМА, КОЛАС ЗНОЎ ВЕРНЕЦЦА Ў ВІЦЕБСК

Гасцямі Літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа былі акцёры тэатра імя Якуба Коласа з Віцебска. Будучы ў Мінску на гастролях, коласаўцы не маглі не прыйсці да Коласа, у дом, які заўсёды быў рады акцёрам блізкага песняру тэатра.

Экскурсію па музеі правёў Іван Курбека. Пэўна ж, экскурсаводам ён выступіў не выпадкова. Іван Курбека зусім не шараговы музейшчык. Паэт і літаратуразнаўца, ён яшчэ і сапраўдны акцёр. Коласаўцы адзначылі яго схільнасць да імправізацыі, заўважылі сапраўдны талент імітацыі.

Але сустрэча ў музеі была цікавая не толькі экскурсіяй, а і дыялогам паміж акцёрамі і работнікамі скарбонкі коласаўскай памяці. Дарэчы, удзел у дыялогу прынялі і сын песняра — Міхась Міцкевіч, а таксама вядомы пісьменнік, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь Генрых Далідовіч.

Да чаго ж дагаварыліся, суразмоўцы? Сёння ў Віцебскім тэатры імя Якуба Коласа няма пастановак паводле яго творчасці. Няма ў тэатра коласаўскай візітоўкі.

— А быў жа выдатны "Сымон-музыка", — згадала дырэктар музея Зінаіда Камароўская, — дык чаму б зараз не вярнуць ці то гэты спектакль ці то паспрабаваць зрабіць пастаноўку паводле асобных раздзелаў "Новай зямлі".

Акцёры, а сярод іх і знакаміты Тадэвуш Кокштыс (між іншым, выканаўца ролі Жабрака ў колішнім віцебскім "Сымону-музыку"), задумаліся, паабяцалі зрабіць нешта істотнае ў знак памяці вялікага творцы. Ды і нагода сёлета самая што ні на ёсць важкая — 3 лістапада спаўняецца 115 гадоў з дня нараджэння Якуба Коласа.

**Уладзімір СТАТКЕВІЧ**

№ 25 28 чэрвеня — 4 ліпеня 1997 г.

29 чэрвеня

# “МАЛАДАЯ ГВАРДЫЯ”.

***Мы шмат расказваем на старонках нашай газеты пра маладых мастакоў, акцёраў, музыкантаў, літаратараў. У нейкай меры іх творчасць і лад жыцця даюць уяўленне пра ідэалы і мэты ўсяго пакалення, але, бадай, толькі ў нейкай меры...***

***Далёка не кожнага прырода надзяліла творчым талентам, затое кожнаму яна дае талент жыцця. Як ім карыстаюцца сучасныя маладыя людзі, якія не малююць карціны, не пішуць вершы, не мараць аб ролі Гамлета, а проста жывуць? У матэрыялах маладзёжнай рубрыкі мы паспрабавалі разам з нашымі аўтарамі і іх героямі адказаць на гэтае пытанне. Адказ, натуральна, атрымаўся далёка не поўным. Калі***

## КАПАЦЬ ЦІ НЕ КАПАЦЬ?

***Нейкі чалавек, уладкоўваючыся на працу, на пытанне, што ён можа рабіць, адказаў, што можа капаць, а можа і не капаць.***

***Гэтая показка ўспомнілася ў сувязі з дыскусіяй наконт таго: варта ці не варта займацца ў цяперашні час нейкай прадпрымальніцкай дзейнасцю, добра гэта ці дрэнна. Адказаць на пытанне павінны самі чытачы, а мы дамо слова чалавеку, які вучыўся на філфаку БДУ, займаўся ў самадзейным тэатры, спрабаваў сябе ў літаратурнай дзейнасці, а цяпер вучыцца на першым курсе юрыдычнага факультэта Інстытута сучасных ведаў, займаецца дробным бізнесам — Кастусю Ворсіну.***



— Я скончыў філфак, на які, шчыра кажучы, пайшоў раптоўна, калі не паступіў у Тэатральна-мастацкі інстытут, у мяне заставалася літаральна некалькі дзён, каб некуды падаць дакументы, і я падаў іх туды, куды быў упэўнены, што паступлю і дзе мне вучыцца хацелася. Бо куды-небудзь трэба было ўсё роўна паступаць, каб не ісці ў армію. Павучыўшыся там, я зразумеў, што таго, чаго я хачу ад жыцця, мне філфак не дасць.

**— А што ты хочаш ад жыцця?**

— Нешта, вядома, філфак мог даць. Добрую, цікавую працу пасля вучобы можна было знайсці. Але ён не мог даць дастаткова сродкаў, каб утрымліваць маю сям'ю. Я рана ажаніўся, аб чым не шкадую, потым нарадзілася дзіця. Філфак я вызначыў для сябе як штосьці накшталт хобі. Акрамя маральнага задавальнення на сённяшні дзень мне філфак нічога не прынес.

Я нарадзіўся ў Мінску, хоць бацькі, як у паловы мінчан, з'ехаліся сюды з розных куткоў былога Саюза. Бацька ўвогуле з Камчаткі. Яму было добра, ён паездзіў па вялізнай краіне, пападарожнічаў. Для мяне гэта мара. Таму я хачу зарабіць грошы, каб здзейсніць сваю мару. Праўда, нельга сказаць, што я сяджу на адным месцы. За апошнія тры месяцы я аб'ездзіў літаральна ўсё знакамітае “Залатое кальцо”. Але гэта не тое, знаёмства з базарамі — гэта яшчэ не знаёмства з горадам. А на астатняе проста не застаецца сіл і часу.

**— Раскажы, чым ты зараз займаешся?**

— Я працую “чаўнаком”: купіў тут, паехаў і прадаў за той жа кошт у Расіі, але з улікам курсаў валюты гэта атрымліваюцца зусім розныя грошы. Праца даволі цяжкая, увесь час у дарозе, дні 3—4 на тыдзень толькі ў Мінску знаходжуся, але і гэты час займаюць пошукі тавараў, закупкі, разлікі за тавар, які даюць на рэалізацыю.

**— Акрамя гэтага ты яшчэ завочна вучышся ў нейкім камерцыйным інстытуце?**

— Сапраўды. Мне даводзіцца яшчэ плаціць за вучобу. Не скажу, каб шмат... Нешта каля 7 млн. рублёў у год. Гэта значна танней, чым у іншых камерцыйных установах. Зараз будзе ў мяне адпачынак, трохі грошай назапасіў, можна дома пабыць — пачнецца сесія.

**— Кастусь, раскажы, як ты пачынаў?**

— Адзін знаёмы майго бацькі, з якім я і цяпер супрацоўнічаю, даў на рэалізацыю тавар і растлумачыў, як і што трэба рабіць. Ёсць вельмі шмат фірмаў, якія зарабляюць на гэтым грошы. Бяруць аўтобус, запрашаюць чалавек 20 гандляроў, палову аўтобуса забіваюць таварам, другую — людзьмі. Ёсць адпрацаваныя маршруты: гэта невялікія гарады (беларусы, вядома, гандлююць і ў Маскве, і ў Піцеры) накшталт Суздаля, Мурама, Тамбова, гарады, дзе адбываюцца кірмашы і куды з'язджаецца народ. Аўтобус туды ідзе прыкладна суткі, адзін дзень гандлююць у адным горадзе, другі — у другім, трэці — у трэцім і суткі на зваротную дарогу. З аўтобусам ад фірмы ездзіць лягчэй: бо калі фірма вязе ў нейкі горад, то там ужо ёсць знаёмыя ў кіраўніцтве базару, у падатковай паліцыі, сярод мясцовых рэкеціраў — таму гэта абыходзіцца танней.

**— Які тавар ты звычайна возіш: прадукты харчавання?**

— Не, прадуктамі займацца вельмі складана, бо трэба браць сертыфікаты якасці тут і ў Расіі, трэба браць дазвол на вываз, дазвол на продаж. А гандляваць без усіх гэтых папер вельмі рызыкоўна. Прадуктовымі таварамі займаюцца людзі, якія маюць магчымасць браць тавар оптам з прадпрыемстваў і прадаваць яго ў Расіі ў сваіх невялікіх крамках. У мяне прамысловы тавар — усё, што мае попыт.

**— А што з нашых тавараў карыстаецца попытам у Расіі?**

— Літаральна ўсё. Нават запалкі. Але я займаюся будаўнічымі матэрыяламі. Сумку цаглін, вядома, з сабой не павязеш: я набываю замкі, фурнітуру, інструмент, гаспадарчую дробязь. Нядаўна заняўся трыкатажам і касметыкай.

Калі гаварыць пра грошы, якія я маю з адной паездкі, дык пасля ўсіх разлікаў атрымліваецца недзе ад 50 да 150 даляраў.

**— Чаму такая вялікая “разбежка”?**

— А гэта як пашанцуе. Я не езджу ў адно і тое ж месца, бо ёсць верагоднасць, што “закорміш” людзей і яны больш не будуць купляць. Розныя месцы гандлю, розны попыт. Звычайна людзі купляюць шмат перад вялікімі святамі і калі атрымліваюць зарплату. У Расіі вельмі дзіўны тэмп жыцця — там часам па тры месяцы не даюць зарплату. Таму тыя, хто едзе гандляваць у Расію, імкнуцца даведацца, падгадаць і апынуцца ў той час, калі ў расіян ёсць грошы.

**— Ты ездзіш толькі ў Расію?**

— Так, чым адрозніваюся ад асноўнай масы “чаўнакоў”, якія пераважна працуюць на польскім тавары: усялякая дробязь закупляецца ў Польшчы і вязецца праз Беларусь у Расію, гэта абыходзіцца значна танней, чым напрамую з Польшчы ў Расію.

**— Чаму ты ездзіш толькі ў Расію, а не робіш як усе?**

— У Польшчы большы асартымент тавараў, таму больш шанцаў яго прадаць. Але там трэба напачатку ўкласці вялікія грошы, якіх у мяне пакуль няма.

**— Як змянілася тваё жыццё, калі ты пачаў займацца “чаўночным бізнесам”?**

— Вядома, для сям'і гэта цяжэй, мяне няма падоўгу дома. Але з іншага боку... Мне давялося працаваць на заводзе, быў такі перыяд, калі мне не было куды падацца. Справа, якой я да гэтага займаўся, развалілася. Узяліся будаваць катэдж на продаж. Уклалі грошы. Але да таго часу як мы яго пабудавалі, кошты на нерухомасць пайшлі рэзка ўніз, і мы прагарэлі. На заводзе, канечне, было лягчэй, нашмат. І фізічна, і маральна: ты адпрацаваў сваю змену — 8 гадзін — і пайшоў дахаты, ні за што не адказваеш, ні за што не хвалюешся. Ды і праца была такая, што палову дня прагуляеш у даміно. Але калі б я працаваў на заводзе, наўрад ці дазволіў бы сабе наймаць з сям'ёй асобную кватэру.

**— Ты бачыш для сябе нейкія перспектывы ў тваім цяперашнім занятку?**

— Ніякіх перспектываў тут не можа быць. І доўга гэтым займацца не збіраюся. У мяне ёсць мара і намер набыць мікрааўтобус — гэта такая рэч, што заўсёды пракорміць свайго гаспадара.

**Міхась БАШУРА**

## КАРЛСАН ЛЮБІЦЬ БЕЛАРУСКАЕ ПІВА

Доўга я выбіраў чалавека з маладзёжнага асяродка, каб зрабіць гэты матэрыял. Хацелася ўзяць асобу незвычайную, вельмі арыгінальную, непаўторную. Спачатку я вырашыў: гэта будзе Мітрыч — рэдактар панкаўскага часопіса “Яма”. Але Мітрыч некуды знік. На ўсе мае тэлефанаванні тэлефон Мітрыча адказваў нахабным піканнем. Тады я звярнуў сваю ўвагу на другую маладую постаць — Ганку Шханаву — паэтку і мастачку. Але пачуўшы пра маю прапанову, Ганка разгубілася. Пачала панікаваць — на ўсе мае пытанні ўсхвалявана махала рукамі. Дыялог ніяк не складваўся. З гэтага я затурыўся і прыйшоў да высновы, што трэба браць інтэрв'ю ў звычайнага хлапца. Маёй журналісцкай ахвярай стаў 19-гадовы чалавек, які цяпер нідзе не вучыцца і не працуе. У войску ён не служыў, бо заганьбіла медкамісія. У тусоўцы яго завуць даволі арыгінальна — Карлсан. Але падобны ён да вядомага казачнага персанажа толькі ў любові да салодкага. Ніякага маторчыка і прапелера ў яго ззаду няма, і лётаць ён можа толькі ў сне і на самалёце. На працягу нашай размовы Карлсан увесь час жвакаў жуйку і ўсміхаўся. Зрэдку ў яго адказах адчуваўся маладзёжны сцёб, але мне падаецца, што гутарка атрымалася цікавай і арыгінальнай.



**— Ты неардынарны чалавек?**

— Канешне. Зрэдчас я раблю такія ўчынкі, што сам здзіўляюся. Напрыклад, нядаўна я ўспомніў, што аднаму сябру паабяцаў некалькі месяцаў таму даць штангу. Ну і, натуральна, вырашыў — адвязу абяцанае. Калі я прыехаў да сябра, высветлілася, што ён з'ехаў з сям'ёй на летнік. І жалязяку я пацягнуў назад.

**— Ты лічыш гэты ўчынак нармальным? Я б штангу пакінуў суседзям. Ды наогул спачатку можна было затэлефанаваць.**



— Дык я і кажу — у ва мне шмат вар'яцтва. У ненармальных учынках і праяўляецца мая неардынарнасць. Але я люблю як у тым выпадку са штангай. Хацелася пабачыць здзіўленне сябра. Калі б я пакінуў суседзям штангу, дык было б не так цікава. Ці яшчэ да прыкладу, нядаўна я быў прывідам. Прачнуўся ноччу і адчуў моцнае жаданне пабачыць сваю дзяўчыну. Замест таго, каб дачакацца раніцы, я ў чатыры гадзіны ночы загортваюся ў коўдру і пехатою адпраўляюся да яе ў госці. Пасля таго наведвання яна і па сёння не можа супакоіцца — як успомніць, адразу пачынае дзіка рагатаць.

**— А якой ты захапляешся музыкай, што чытаеш?**

— Паважаю панкаў. Люблю казку пра Карлсана. Зранку чытаю Маякоўскага. А больш за музыку і чытанне кніг я люблю смачна паесці. Праўда, апошнім часам паўстала праблема — трэба шукаць нейкую працу. Бо ў нашай краіне без працы смачна харчавацца... могуць не многія. А яшчэ я люблю беларускае піва “Чорны прынц”, гэта накшталт паэзіі.

**— Дык атрымоўваецца, што ў хуткім часе твой лад жыцця кардынальна зменіцца, бо думаеш ужо пачаць працаваць?..**

— Можа, спачатку пачну вучыцца. А наконт змены майго існавання, думаю, ты памыляешся. Я, як прусак, заўсёды адшукаю патрэбную шчылінку ў часе і для сваёй тусоўкі. Без яе мне будзе сумна.

**— А кім ты хочаш стаць?**

— Заўсёды хацеў быць касманаўтам. Але, на жаль, мяне з маім здароўем туды не возьмуць. Таму ёсць кампраміс — кухарам.

**— Нешта не бачу сувязі паміж космасам і гатаваннем ежы...**

— Памыляешся. Кожны касманаўт павінен добра харчавацца. Хоць такім чынам далучуся да космасу.

**— Гэта цікавая думка. Ты мог бы стаць неблагім камісарам-тэарэтыкам у беларускіх літаратараў з Бум-Бам-Літа. Можа, табе з тваёй фантазіяй заняцца нейкай творчасцю?**

— Я і так ёй займаюся ўвесь час. Распавядаю аб сваім гаротным існаванні, п'ю піва. Ці гэта не творчасць?

**— А ці ёсць у цябе нейкая самая-самая патаемная мара?**

— Так. Хачу заўтра з'ездзіць да сваёй бабулькі ў Дзяржынск. Там будуць смачныя піражкі.

**— Удачы табе.**

**Гутарыў Зміцер ВОЛКАЎ**

**P.S.** Пасля нашай гутаркі я запрапанаваў Карлсану сфатаграфавацца, на што ён рэзонна заўважыў, што ў кожнай кнігарні вельмі шмат кніжак з партрэтамі Карлсана.

**З.В.**

**Малюнак Ганны ЦІХАНАВАЙ**



# НА МЯЖЫ ТЫСЯЧАГОДДЗЯЎ.

***заўгодна, гэта яшчэ не "партрэт пакалення", а толькі некалькі эскізаў да яго.***

***Не станем сцвярджаць, быццам мы ў вялікім захапленні ад таго, што ўбачылі, пачулі, усвядомілі. Але мы і не імкнуліся стварыць вобраз маладога чалавека, які б нам падабаўся. Мы хацелі ўбачыць яго такім, якім ён ёсць на самой справе. Рэальным у рэальным жыцці.***

***Спадзяемся, што чытач з паразуменнем паставіцца да нашых публікацый, якімі б дзіўнымі, спрэчнымі ці нават недарэчнымі не падаліся яму некаторыя думкі і ўчынкі гэтых маладых людзей...***

***Ведаць заўсёды лепей, чым не ведаць.***

## МЛЯВАЯ РЭВАЛЮЦЫЯ

Уяўляю, што напісаў бы з гэтай нагоды які-небудзь празмерна ідэйны журналіст правінцыйнага размаху...

Насамрэч, як гэта, зрэшты, нярэдка здараецца, акцыя пад празмерна прэцэзійным назовам "Індастрыэл Рэвалюшн" была бадай напоўніцу пазбаўленая якога б там ні было пафасу. Што, у прынцыпе, і не дзіўна, бо аніякога гэткага звышзначнага ў тую ноч у клубе "Піраміда" і не адбылося. Проста цяпер можна амаль адназначна сцвярджаць, што на Беларусі існуе і гэты, яшчэ не так даўно зусім для нас нязвыклы музычны накірунак.

Індастрыэл, а асабліва танцавальныя яго адгалінаванні, вельмі папулярныя цяпер і ў Еўропе, і ў Амерыцы. І да нас ён трапіў якраз тады, калі за мяжой мода на яго ўжо патроху пачала згасаць. Сутнасць такой музыкі зразумелая ўжо з самога назова гэтага накірунку. Шмат у каго кампазіцыі індустрыяльных гуртоў выклікаюць асацыяцыі з бездакорнасцю металёвых і бетонных канструкцый альбо, наадварот, немаччу сучасных сметнікаў. Нехта сцвярджае, што гэты стыль адлюстроўвае найперш унутраны стан чалавека ў эпоху тэхнічнага прагрэсу, які часцяком спалучаны з унутранай спустошанасцю. А ў прынцыпе, аб'ектыўнага азначэння стылю індастрыэл у прыродзе не існуе. Кожны разумее пад гэтым паняццем нешта сваё і прытрымліваецца выключна ўласных творчых канцэпцый. Мэтрамі індастрыэл лічацца як медытатыўна-хуліганская "Troubing Gristle", гэтак і надзвычай агрэсіўныя "Ministry", "KMFDM" і "Einstuzende Neubauten".

Дарэчы, назва апошняга гурта, які мае больш як культавы статус для сённяшніх індустрыяльшчыкаў, перакладаецца з нямецкай мовы як "новабудоўлі, якія руйнуюцца". Менавіта гэты эстэтычны вобраз можна назваць направдзе этапным для індустрыяла.

Таму сімвалічна, што першы індустрыяльны фэст адбыўся не дзе-небудзь, а менавіта ў "Пірамідзе". Нягледзячы на тое, што гэты клуб па праве лічыцца найлепшым у Мінску, побач з ім знаходзіцца акурат такая новабудоўля. Зрэшты, напаўразваленыя падмуркі — гэта ўжо вынік безгаспадарнасці, а не якогасьці там індустрыяла. І ды-джэй брыгады "Ла-бел-ла", якая ладзіла сэйшн, не мае да гэтага аніякага дачынення. Як, зрэшты, і незалежныя фірмы грамзапісу Еўропы, пры дапамозе якіх адбыўся фестываль.

Па словах хлопцаў, да ўдзелу ў фэсце былі запрошаныя тыя гурты, якія прынамсі намагаюцца ў нашых умовах рабіць нешта індустрыяльнае. Нягледзячы на тое, што ніхто з удзельнікаў імпрэзы не займеў пакуль асаблівай вядомасці, у жадаючых паўдзельнічаць у рэвалюцыі ў якасці гледачоў недахопу відавочна не назіралася. Зрэшты, з людзьмі ў гэтую ноч рабілася нешта дзіўнае, бо калі на сцэну выйшаў першы гурт "Fat not Dead", зала была паўнютка, але ўжо праз некалькі гадзін народ пачаў некуды рассмоктвацца альбо паглынаць у невярагодных колькасцях спіртовыя напоі. У гэтым масавым дэзерцірстве вінаваты, у тым ліку, і арганізатары, якія не надта ўдала сплянавалі праграму імпрэзы.

Таўстуны, якім не хочацца канаць, адыгралі добра зладжаную праграму ў стылі дэс, індустрыяльнасць якой абмяжоўваецца хіба выкарыстаннем драм-машынкі. Гэты гурт — праект музыкантаў з добра вядомага хардкоравага гурта "Барфлайз дрымс", і выконвае ён самую розную музыку. Напрыклад, на дзень нараджэння Гагарына хлапцы прынялі ўдзел у псеўда-тэхнавечарыны. Пасля вычарпальнай танц-паўзы на сцэне з'явіўся яшчэ адзін праект музыкаў вядомага гурта, праўда, на гэты раз "Gods Tower". Калектыў мае назву "Romantic sub-v 19/X p.c." і грае ён прафесійна дый цікава, што, зрэшты, і нядзіўна, улічваючы патэнцыял "Годс Таўэр". Арганізатары імпрэзы небеспадстаўна лічаць яго хэдлайнерам усёй беларускай індустрыяльнай тусоўкі.

Зрэшты, іхняе меркаванне не зусім супадае з маім, бо я найперш адзначыў бы мінскі нойзавы гурт "R-SQ", які выступаў адразу пасля "рамантыкаў". Музыкантаў гэтай каманды, якая спецыялізуецца на інструментальнай музыцы, цяжка абвінаваціць у дрыгаснасці ці ў непрафесіяналізме. І яе творчасць з'яўляецца мастацтвам не ў меншай ступені, чым опусы заходніх мэтраў андэграўнду. Увогуле, пра такую музыку цяжка распавядаць, яе можна хіба што паслухаць і пераканацца (альбо не) у адэкватнасці прыведзеных вышэй эпітэтаў. Хлапцы з Берасця "Too Late Frozens" адыгралі гучна і з добрым драйвам, але зморааная публіка не ацаніла іхніх намаганняў у той меры, у якой яны гэтага заслугоўваюць. Музыку гэтага гурта цяжка назваць звышпрагрэсіўнай, але на ўзроўні танцавальнай яна ўспрымаецца вельмі і вельмі някепска.

Непаразуменні з публікай былі і ў апошняга ўдзельніка праграмы, беларускамоўнай нойз-індустрыйнай каманды "Фляўэрвіл". Град гукаў, які пасыпаўся з электрызаванай металёвай скрыні — асноўнага інструмента "Фляўэрвіл" — выклікаў у публікі млявае недаўменне. А калі ў залу пляцела акрываўленае плюшавае ільвяня, гэты дарунак вярнуўся назад музыкантам, ледзь не патрапіўшы ў аднога з іх. Якая тут ужо брутальнасць, калі хочацца спаць?

Дарэчы, ніводзін удзельнік фэсту, з якім даводзілася размаўляць, не застаўся задаволеным уласным выступам. Супярэчлівыя пачуцці індустрыяльныя навароты пакінулі і ў публікі. Але, зрэшты, можа, і добра, што індастрыэл-рэвалюцыя, пра якую так доўга марылі асобныя эстэты з мінскай тусоўкі... не адбылася. Прынамсі, з першага разу. Бо ў такім выпадку ў беларускіх індустрыяльшчыкаў застаецца нагода для ўдасканалення сваёй музыкі. А жывы творчы працэс — гэта заўсёды лепей за настальгічныя ўспаміны пра ўзяццё Зімняга ці нешта накшталт таго.

**Гальляш СЬВІРЫН**
**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**



## МЫ НЕ РОКЕРЫ, НЕ ПАНКІ

***Калі спрабуюць аналізаваць тыя ці іншыя маладзёжныя праблемы, то часта называюць некалькі груповак кшталту "рэпераў", "кіслотнікаў", "рэйвераў", забываючыся на даволі ўплывовую групу, якую складаюць актывісты рэлігійных суполак, я б іх умоўна назваў "клірыкамі". Мне выпала сустрэцца з чалавекам, які меў дачыненне да шэрага рэлігійных "меншасцей".***

**— Каго, на тваю думку, можна назваць маладым чалавекам?**

— Маладосць пачынаецца тады, калі чалавек перастае быць дзіцём, і канчаецца, калі ў яго з'яўляюцца ўласныя дзеці ці калі ён пачынае браць поўную адказнасць за іншага чалавека.

**— Чым адметны сённяшні малады чалавек, ці не пагражаюць рэлігійныя суполкі яго духоўнаму здароўю?**

— Аднойчы ў піўбары мне давялося быць сведкам цікавай гаворкі. Хлопцы пілі гарэлку і запівалі півам. Яны абмяркоўвалі, куды б пайсці закусіць. Аказваецца, побач было некалькі месцаў, дзе можна было пачаставацца бясплатна: прыходы розных рэлігійных груповак — "Крышнаіты", "Бахаі", "Муніты", "Евангелісты"... Акрамя духоўнай ежы, каб завабіць прыхаджан, яны прапаноўвалі розныя ласункі. Хлопцы, нарэшце, вырашылі пайсці да "Крышнаітаў", хоць тыя і знаходзіліся далей, затое кухня там была адмысловая і прывабная.

З іншага боку ўспамінаю расповед старых людзей пра тое, што ў вёсцы, адкуль я паходжу, да вайны зусім амаль не пілі — абыходзіліся квасам, сокамі (на вяселлі, быццам, хапала адной бутэлькі гарэлкі (!). Пры гэтым асабліва актыўнай місіянерскай работы не назіралася. Я не хачу гэтым прыкладам наводзіць цень на суполкі, да кожнай з якіх маю пэўнае дачыненне (тым болей, што яны ўсімі сродкамі змагаюцца з усялякімі наркотыкамі). Але тая гутарка дазваляе, хоць гэта ні парадаксальна, з аптымізмам глядзець у будучыню: любую ідэалогію сённяшні чалавек здолее прымусіць служыць сабе, перакруціць яе так, што пасля не разбярэшся, з чаго ўсё пачыналася. Адзін мой знаёмы настолькі шчыра верыў дзвюм розным цэрквам, што атрыманую грашовую дапамогу ў евангелістаў перадаваў у якасці дзесяціны мармонам.

**— Чым адрозніваецца свядомасць рэлігійна заангажаванага чалавека ад свядомасці звычайнага сучасніка?**

— Найбольш характэрнай рысай я б назваў здольнасць "трымаць" чужую думку і перакананне. Уявіце сабе: вы ўпэўнены ў тым, што ёсць месія, і хто не паверыць у яго — павінен перанесці вялізныя пакуты ці навогул памерці. Гэтае пачуццё можна параўнаць з пачуццём чалавека, які ведае, што ў горадзе вось-вось здарыцца землятрус, але да яго інфармацыі ніхто не прыслухоўваецца. Мала таго, калі спрабаваць пра гэта казаць занадта актыўна, — абвінавачваюць у "замбіраванні". Таму ім даводзіцца шукаць сродкі, каб як мага тактоўней, але прынцыпова выказваць сваю думку. Пры гэтым яны сапраўды адчуваюць вялікую адказнасць за кожнага. Яны маюць мэту ў жыцці — выратаваць яшчэ хаця б аднаго чалавека, і гэта робіць іх вельмі моцнымі. Упэўненасць надае ім сілы выжываць у любых умовах, які б прэсінг не ішоў ад навакольнага асяроддзя.

**— Але ўвесь час з'яўляюцца паведамленні пра розныя паскудствы кіраўнікоў рэлігійных фанатаў.**

— У кожнай рэлігійнай сістэме ёсць свае станоўчыя бакі і заганы. У апошнія гады рэлігійныя групы ў пэўнай ступені падмянілі сабой камсамол, прынамсі, тое, што тычыцца этычнага і маральнага выхавання. Я ведаю многіх людзей, якія менавіта тут упэўніліся, што, аказваецца, можна паводзіць сябе ў адпаведнасці са старымі запаветамі і разам з тым жыць сучасным жыццём. З іншага боку, як у свой час камсамол насаджаў пэўную ідэалогію, якую чалавеку са здаровым сэнсам цяжка было ўспрыняць, так ідэалогія рэлігійных групаў абмяжоўвае волю чалавека. Як толькі пачынаецца гаворка пра выключнасць пэўнай асобы — гэта ўжо хіба. Бо калі святы пачынае пераконвацца ў сваёй святасці — ён робіцца кімсьці іншым. Варта ставіцца да выключнасці пэўнай асобы не як да мэты, а як да сродку, які дазваляе існаваць групе і працаваць інтэнсіўна.

Што тычыцца розных абвінавачванняў: часам інфармацыя, якая праходзіць у прэсе, проста недакладная. Я не кажу, што яна добрая ці дрэнная: блытаюцца элементарныя рэчы — імёны, назвы клерыкальных груп, многа фантазуецца. Трэба ўлічваць яшчэ наступнае: калі выкрываецца мярзотнік міліцыянер ці журналіст — гэта не значыць, што ўсе міліцыянеры ці журналісты мярзотнікі. Тое ж самае з рэлігійнымі суполкамі.

**Алесь ТУРОВІЧ**



Лішне казаць!

# "КАЛІ ЗУСІМ НЕ РАЗВАЛЮСЯ..."

## (Маналог старога аўтамабіля)

Моцна памыляецца той, хто мяркуе, што мы, аўтамабілі, усяго толькі мёртвая куча жалеззя на колах і нічога не маем за душой. Вось я, старэнькі "Жыгуль", за сваё доўгае працоўнае жыццё пабачыў шмат чаго. А якія неверагодныя гісторыі распавядалі мае сваякі — старыя лімузіны, якія дажываюць сваё жыццё ў музеях!

Ад іх я даведаўся, як цёпла і душэўна напісаў пра нашага калегу Усевалад Іванаў. Дазволю сабе цытату: "Вось гэты салідны "Додж", прыдуманы, напэўна, адным са станоўчых герояў Дзікенса, не-не ды і скажа: "Я перакананы ва ўдалым заканчэнні маёй справы, ды і вы таксама. Прыемнае суседства, надзвычай прыемнае! Я б з задавальненнем працягнуў вам руку, але яна ў алеі і пыле".

Узгадаем, да прыкладу, аўтатэзісы з "Залатога цяляці", што адразу зрабіліся класікай. Але, як мне распавядалі, такія стасункі паміж намі і чалавецтвам склаліся не адразу, хаця аўтамабілі і суправаджалі людзей у эпоху няўрымслівага тэхнічнага прагрэсу. Больш за тое, мы рашуча ўплывалі на гэты прагрэс. Хаця напачатку аўтамашына была нечуванай раскошай!

Мы хутка сталі аб'ектамі натхнення і творчасці. Яшчэ роўна 100 гадоў таму Анры Тулуз-Латрэк маляваў разам з веласіпедыстамі і аўтамабіліста, які шалёна імчаўся наперад. Праўда, ужо на гэтай літаграфіі гераічнае мастак чамусьці ператварае ў камічнае: кіроўца з вар'яцкімі вачыма пад шкельцамі велізарных акуляраў, прыкушанымі губамі, у калматым футры больш нагадвае нейкую жахлівую істоту.

І дасюль выява машыны хістаецца, як і ў творы Тулуз-Латрэка, паміж пафасам і трывіяльнасцю. Такім чынам, адбіваецца падзеленасць большасці мастакоў: яны захапляюцца прагрэсам і звязанай з ім нястрымнай хуткасцю, але адначасова бачаць небяспеку, якую нясем мы, аўтамабілі. Як гэта ўбачылі ў сваіх палотнах-аварыях, скажам, Мікола Селяшчук альбо Слава Захарынскі. Праўда, яны спрабавалі больш убачыць не столькі аварыю ўласна аўтамабіля, колькі аварыю чалавечых душ, але ўсё ж такі...

Салонныя мастакі на мяжы стагоддзяў абралі нас сімвалам дабрабыту, што рабіла ўплыў на выяву аўтамабіля да 20-х гадоў.

Для мастакоў-мадэрністаў мае браты адлюстроўвалі аўру буйных гарадоў. Асабліва вылучаліся ў гэтай справе футурысты. Памятаеце "Аўтобус" Дж.Северыні? Вы бачыце нібыта адбітак заблытанай схемы маршрута аўтамабіля — у тым выглядзе, як яго трымае ў сабе свядомасць чалавека, якога крыху стаміла аўтобусная цесната: мільгаюць і рухаюцца фрагменты дамоў у вакне і шыльды, вялізныя літары якіх навязліва лезуць у вочы, знішчаючы ўсё астатняе. Дзесьці ў куце можна прыкмеціць дрэвы, шэрыя, занядбаныя, як гэта і бывае ў буйным прамысловым мегаполісе. Дж.Северыні так і піша: "Аўтобус уязджае ў дамы, паўз якія ён рухаецца, і затым дамы падаюць на аўтобус і зліваюцца з ім".



Ф.Арман. "Вечны прытулак". 1982.

Дазволю сабе не пагадзіцца з бацькам італьянскага футурызму: мне здаецца, гэта толькі ўспамін пра стамляючы маршрут, змешаны з небагатымі ўражаннямі аб звычайных прадметах, выпадкова заўважаных на дарозе. Дынаміка тут зусім не камічная, да таго ж аўтар яўна цягне да ўраўнаважанай упарадкаванасці, што, зразумела, супярэчыць разліку на характэрную для нас, машын, віхурную экспрэсію. А дарэчы, ці ведаеце вы, якім быў ідэал футурыстаў? Не ведаеце? Дык вось, я вам распавяду: "гоначны аўтамабіль са сваім кузавам, аздоблены велізарнымі трубамі з выбуховым дыханнем". Альбо, з чым я згодзен, "рыкаючы аўтамабіль, які нібыта бяжыць па дробнай карцечы, прыгажэйшы за Ніку Самафракійскую".

Ап-арт (аптычнае мастацтва) гуляў з намі па-рознаму. Як распавёў мне сябрук "Volkswagen", Томас Байрле ў сваёй серыяграфіі выкарыстаў ягонага брацiка ў якасці растра! А Д.Розенквіст нават адзін са сваіх твораў назваў "Я кахаю Вас з маім "Фордам"! Вось як!



Д.Эддзі. "Фольксваген" у вітрыне". 1972.

Больш за ўсё я люблю майстроў поп-арту — апошняга накірунку ў мастацтве, што ўслаўляў аўтамабілі. На іхніх палотнах лімузіны, якія зіхацяць нікелем і хромам, імчаць па стэрыльных ландшафтах. Кожная дробязная дэталь выпісаная звышрэалістычна і з вялікай замілаванасцю.



Д.Розенквіст. "Я люблю Вас з маім "Фордам". 1961.

Залатыя былі часы! Прадстаўнік поп-арту Эндзі Уорхал выказаўся аднойчы так: "У машыны меней праблем. Я б хацеў быць машынай, а вы хіба не? Я хачу быць машынай. Усё цудоўна..."

А потым пачалася атака на аўтамабілі. Вох, ужо гэтыя 60-я гады... Нас крытыкавалі і за грукат, і за аварыі з чалавечымі ахвярамі. Пратэставалі, безумоўна ж, і мастакі. Рабілі яны гэта рашуча і са з'едлівай іроніяй, ператвараючы нас пад прэсам у невялікія каляровыя пакеты, разразаючы на часткі, каб потым ствараць калажы. На тэрыторыі паркінга супермаркета ў Хэмдэне (штат Канэктыкут) Дж. Уайнс усталяваў штосьці накшталт надмагільнага манумента аўтамабілю: дваццаць машын, якія аджылі свой век, закапаныя тут на розных узроўнях і залітыя асфальтам. Рэкламна-дызайнерскія хітрыкі Уайнса развіў французскі "поп-артыст" Ф.Арман. Ён пераскочыў усіх, пабудаваўшы ў 1982 годзе ў мястэчку Жуі-ан-Жаза каля Парыжа, паводле ягонага ўласнага выказвання, "сучасны татэм" і выкарыстаў ужо 60 старых аўтамабіляў, пастаўленых адзін на адзін і замураваных у бетон, якія ўсе разам утварылі штосьці накшталт вялізнага выродлівага тэрмітніка. Сваё стварэнне скульптар шматзначна назваў "месцам вечнай стаянкі". На гэтую, мной не вельмі любімую тэму, стварыў сваю работу і гіперрэаліст Д.Эддзі — "Могілкі машын". Хаця неўзабаве ён выправіў сваю памылку і напісаў прыгожы "Volkswagen" у вітрыне"...

Не менш жудасныя карціны сталі маляваць у сваіх кніжках і пісьменнікі. Стывен Кінг — вы яго ведаеце, у рамане "Крысціна" распавёў пра аўтамашыну з цёмным мінулым і цяпершчынай . Ягоная "Крысціна" — машына-забойца. Але яна была здольная і на каханне. На жаль, пад бурны ўплыў Крысціны трапіў малады чалавек. Мабыць, аўтар занадта згусціў крывавыя фарбы.

Так, дарэчы, узгадаў: у Кінга ёсць яшчэ навела пад назвай "Грузавікі". Там ён наогул апісаў нейкі жах, маўляў, аўтамабілі з'ехалі з глузду, паднялі мяцеж супраць людзей. Вельмі шкодная, на маю думку, кніга...

Шчыра кажучы, аўтамабільная тэма ў мастацтве не вычарапаная і дасюль. Хаця, што ўжо тут хаваць? — да коней мастакі маюць большую сімпатыю. Кажуць, што па прыгажосці і зграбнасці нам, машынам, за конямі няма чаго і гнацца. Узяць да прыкладу таго ж Леаніда Шчамялёва: няшмат у свеце знойдзецца жывапісцаў, якія намалявалі столькі ж коней, ды яшчэ — як! Аднак, нават ён, цудоўны спявак навакольнага асяроддзя, не абыходзіцца.. без аўтамабіляў! Узгадайце ягоныя карціны "Свята ў Ашмянах", "Салют Радзіме", "Кастрычнік", "Вяснянскі лён", дзе машыны адыгрываюць не апошнюю ролю...

Карацей, у нас ёсць пра што паразмаўляць. Калі не развалюся канчаткова, дык абавязкова вярнуся да пачатай з вамі размовы.

А пакуль — бі-бі!

**Маналог старога "Жыгуля" запісаў Барыс КРЭПАК**

КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА
выдаецца
з кастрычніка 1991 года

Заснавальнік —
Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар —
Людміла КРУШЫНСКАЯ

Рэдакцыйная калегія:
Валянцін АКУДОВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), Арсен ВАНІЦКІ, Андрэй ВАШКЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара — адказны сакратар), Валерый ГЕДРОЙЦ, Уладзімір ГІЛЕП, Валянцін ЕЛІЗАР'ЕЎ, Сяргей ЗАКОННІКАЎ, Вольга ІПАТАВА (рэдактар аддзела), Ігар КЛОКАЎ (рэдактар аддзела), Анатоль КУДРАВЕЦ, Мікола КУПАВА, Алена ПІСЬМЯНКОВА (рэдактар аддзела), Міхаіл ПТАШУК, Алег ТРУСАЎ, Юрый ЦВЯТКОЎ, Васіль ШАРАНГОВІЧ

Рэдакцыя:
Рэдактары аддзелаў — Жанна ВАСАНСКАЯ, Барыс КРЭПАК
Спецкарэспандэнты: Міхась БАШУРА, Зміцер ВІШНЁЎ, Сяргей МІНСКЕВІЧ
Загадчык аддзела фотаілюстрацый — Генадзь ЖЫНКОЎ
Мастацкі рэдактар — Наталля ОВАД
Карэктар — Мая КЛІМКОВІЧ

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 418.

Адрас рэдакцыі:
220029, МІНСК (МЕНСК),
вул. ЧЫЧЭРЫНА, 1.
Тэлефон: (017) 276-94-66

Рукапісы аб'ёмам больш за адзін аўтарскі аркуш не прымаюцца.

Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Меркаванні аўтара могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.

Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.



Фармат А3.
Індэкс 63875.
Агульны наклад 3450.

Падпісана ў свет 26.06.97. у 16.00.
Замова 3712

Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку".
220013, г. Мінск,
пр. Ф. Скарыны, 79.

М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.
Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.